● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

23 лістапада 1996 г. субота, № 274 (23077)

# ЗВЯЗДА



# АБ ПАГАДНЕННІ АБ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ СІТУАЦЫІ І АБ КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ РЭФОРМЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

22 лістапада ў Мінску па ініцыятыве кіраўніка беларускай дзяржавы адбылася сустрэча Старшыні Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р. і Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шарэцкага С.Г. з удзелам Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Ціхіні В.Г., а таксама Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі Чарнамырдзіна В.С., Старшыні Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі Строева Я.С. і Старшыні Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі Селязнёва Г.М., на якой была абмеркавана грамадска-палітычная сітуацыя і ход канстытуцыйнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь.

Па выніках сустрэчы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Лукашэнка А.Р. і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шарэцкі С.Г. падпісалі Пагадненне, у якім пацвердзілі, што рэспубліканскі рэферэндум праводзіцца 24 лістапада 1996 г.

Пытанні аб прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі выносяцца на кансультатыўны рэферэндум.

На працягу 20 дзён пасля рэспубліканскага рэферэндуму Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь фарміруе на парытэтных пачатках Канстытуцыйны сход. У састаў Канстытуцыйнага сходу ўваходзяць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь — Старшыня сходу, 50 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія дэлегіруюцца фракцыямі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапарцыянальна іх колькасці ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, і 50 прадстаўнікоў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у асобе Старшыні Вярхоўнага Савета ўзяў на сябе абавязацельства забяспечыць адкліканне з Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь прапановы дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб дачы заключэння на прадмет парушэння Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Ціхіня В.Г. згадзіўся з тым, што Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь 22 лістапада 1996 года спыняе вытворчасць па справе аб парушэнні Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі, узбуджанай па прапанове дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Да прыняцця новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь не распачынае ніякіх дзеянняў па датэрміноваму спыненню паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета, а Вярхоўны Савет — па адхіленню Прэзідэнта ад пасады.

Пагадненне ўступіла ў сілу з дня падпісання.

**Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**



### ВЫШЭЙШЫ САВЕТ СУПОЛЬНАСЦІ БЕЛАРУСІ І РАСІІ ЗАКЛІКАЎ УСЕ ПАЛІТЫЧНЫЯ ІНСТЫТУТЫ БЕЛАРУСІ СТРОГА КІРАВАЦЦА ПАГАДНЕННЕМ АБ КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ РЭФОРМЕ

**Ноччу 22 лістапада ў беларускай сталіцы Вышэйшы Савет Супольнасці Беларусі і Расіі прыняў Рашэнне за нумарам 10 «Аб Пагадненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р. і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб грамадска-палітычнай сітуацыі і канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь ад 22 лістапада 1996 года».**

У дакуменце гаворыцца: «Уведамляючы сваю адказнасць за лёс Супольнасці Беларусі і Расіі, абмеркаваўшы грамадска-палітычную і эканамічную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь напярэдадні рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 года, Вышэйшы Савет Супольнасці Беларусі і Расіі вырашыў: адобрыць Пагадненне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р. і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб грамадска-палітычнай сітуацыі і канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь ад 22 лістапада 1996 года. Вышэйшы Савет Супольнасці Беларусі і Расіі звяртаецца да ўсяго беларускага народа, палітычных партый, грамадскіх рухаў, дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, сродкаў масавай інфармацыі з прапановай накіраваць свае намаганні на кансалідацыю беларускага грамадства і строга кіравацца палажэннямі вышэйпамянёнага Пагаднення.

Вышэйшы Савет Супольнасці Беларусі і Расіі разлічвае на правільнае разуменне і падтрымку міжнароднай супольнасцю прынятых рашэнняў».

Подпісы пад гэтым дакументам паставілі: Старшыня Вышэйшага Савета Супольнасці Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка, члены Вышэйшага Савета Генадзь Селязнёў, Ягор Строеў, Віктар Чарнамырдзін, Сямён Шарэцкі.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

### БЯССОННАЙ НОЧЧУ НАРАДЗІЎСЯ КАМПРАМІС ПАМІЖ А. ЛУКАШЭНКАМ І С. ШАРЭЦКІМ

**пры пасрэдніцтве кіраўнікоў расійскага ўрада і дзвюх палат парламента**

**«Гадоў пятнаццаць я не ўдзельнічаў у такіх мерапрыемствах», — заявіў 22 лістапада а 6 гадзіне раніцы пасля бяссоннай ночы, праведзенай у перамовах з беларускімі лідэрамі, прэм'ер-міністр Расійскай Федэрацыі Віктар Чарнамырдзін. Мерапрыемства сапраўды было незвычайнае.**

Яшчэ ў абед 21 лістапада ні беларускі Прэзідэнт А. Лукашэнка, ні яго апанент Старшыня парламента С. Шарэцкі не ведалі, якую дзіўную ноч яны правядуць у перамовах з расійскімі лідэрамі. Намячалася толькі сустрэча А. Лукашэнкі з С. Шарэцкім сам-насам. Але прыбліэна ў

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*СЕНСАЦЫЯ*

## СУСТРЭЧА ПРАЗ ПАЎГОДА,

### або Як дзякуючы намаганням праваахоўных органаў і грамадскасці дзвюх краін удалося вярнуць дачку маці

Гісторыя, пра якую расказала наша газета некалькі тыдняў назад («Усе лічылі дзяўчынку забітай, а яе знайшлі ў Бельгіі» («Звязда», 25 кастрычніка 1996 г.), сапраўды падобная на казку. Не пераказваючы артыкул, зазначым толькі, што пяцігадовую мінскую дзяўчынку Віку Радзівонаву ўкралі ў маі гэтага года, а праз некалькі месяцаў знайшлі аж но ў Бельгіі. Больш як месяц спатрэбілася праваахоўным органам дзвюх краін на ўдакладненне ўсіх абставін гэтай незвычайнай гісторыі, перш чым нарэшце было прынята рашэнне аб яе перадачы ў Мінск. І вось учора ў рэдакцыі пачуўся тэлефонны званок. Начальнік вышуковага аддзела ўпраўлення крымінальнага вышуку Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь падпалкоўнік міліцыі Аляксандр Паўзуноў паведаміў:

— Заўтра ў аэрапорт «Мінск-2» рэйсам SK-785 з Капенгагена прыбывае Віка Радзівонава.

Неадназначнай давялося бываць у аэрапорце «Мінск-2». Як правіла, чакаеш пасажыраў на выхадзе пасля завяршэння ўсіх неабходных працэдур, тым больш, калі рэйс з далёка замежжа. Але тут асаблівы выпадак: хацелася сустрэць госцю, як кажуць, ля трапа самалёта і, дрэвіма, сфатаграфаваць. Дужа ж дзіўная гісторыя адбылася з ёю.

А напярэдадні ў аэрапорце ўдалося перакінуцца некалькімі словамі з маці дзяўчынкі Валянцінай Іванаўнай. Праз слёзы яна расказала, колькі пакут перанесла, пакуль дачакалася гэтага светлага дня.

— Розум падказваў, што здарылася непапраўнае, што яе хутчэй за ўсё няма ў жывых, — уздыхае Валянціна, — а сэрцам адчувала: жывая мая Віка! Неяк ужо ў пачатку кастрычніка прысніўся дзіўны сон: быццам гуляе мая дачушка ў двары нейкага двухпавярховага катэджа. А праз дзень з'явіўся супрацоўнік Міністэрства ўнутраных спраў Аляксандр Васільевіч Паўзуноў і асцярожна паведаміў, што хутчэй за ўсё Віка жывая...



**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПРОЦІСТАЯННЕ СПЫНЕНА ЦІ ТОЛЬКІ АДТЭРМІНАВАНА?

**Падпісанае Аляксандрам Лукашэнкам і Сямёнам Шарэцкім пазамінулай ноччу пагадненне, якое прадугледжвае сцэнарый выхаду з палітычнага крызісу, стала асноўным прадметам абмеркавання на сесіі Вярхоўнага Савета. Як вядома, дакумент павінен прайсці працэдуру ратыфікацыі. З гэтай мэтай у зале пасяджэнняў учора сабралася 159 дэпутатаў.**

Аднак напачатку сам прадмет мяркуемага абмеркавання — тэкст пагаднення — адсутнічаў у народных выбраннікаў, таму выказванні адносна яго насілі не столькі канструктыўны, колькі эмацыянальны характар. Распаўсюдзілі дакумент толькі ў сярэдзіне дня, пасля чаго парламентарыі зноў сабраліся ў Авальнай зале. Гутарка, якую яны павялі, была больш грунтоўнай, чым раніцай. Стала зразумела, што адзінай думкі і абсалютнага адабрэння прапанаванага кампрамісу не будзе: з'явілася першыя заўвагі ад дэпутацкіх фракцый і асобных парламентарыяў. Лідэр аграрыяў Мечыслаў Гіруць заўважыў, што падпісаны дакумент валодае некалькімі хібамі, адна з якіх — спрошчаная працэдура прыняцця Канстытуцыі краіны. Ён выказаў думку, паводле якой недапушчальна, каб Асноўны закон прымаўся звычайнай большасцю членаў Канстытуцыйнай камісіі, а не двума трэцімі ад яе саставу. Некалькі грунтоўных заўваг зрабіў прадстаўнік сацыял-дэмакратаў Уладзімір Нісцюк, а кіраўнік фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» Станіслаў Багданкевіч нагадаў, што асобныя артыкулы падпісанага дакумента не адпавядаюць

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 485
### АБ АДМЕНЕ УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 5 ЛІСТАПАДА 1996 Г. № 455

1. Адмяніць Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лістапада 1996 г. № 455 «Аб парадку ўступлення ў сілу рашэнняў рэспубліканскіх рэферэндумаў аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».
2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

22 лістапада 1996 г.
г.Мінск.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 486
### АБ АДМЕНЕ УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 7 ЛІСТАПАДА 1996 Г. № 459

1. Адмяніць Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 лістапада 1996 г. «Аб забеспячэнні канстытуцыйнага права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме».
2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

22 лістапада 1996 г.
г.Мінск.

**НАРОДНАМУ АРТЫСТУ БССР І СССР РОЎДУ ВІКТАРУ УЛАДЗІМІРАВІЧУ**

Паважаны Віктар Уладзіміравіч!

Прыміце мае самыя шчырыя і сардэчныя віншаванні ў сувязі з Вашым 75-гадовым юбілеем.

Больш за сорак гадоў Вы плённа працуеце на ніве мастацтва, якое прызвана выхоўваць Чалавека-патрыёта сваёй Радзімы, сумленнага, чыстага і ўзнёслага. І сёння можна ўпэўнена сцвярджаць, што Вамі зроблена вельмі многае — лепшая частка жыцця аддадзена акадэмічным харавым спевам, больш за трыццаць гадоў Вы прысвяцілі высакароднай справе падрыхтоўкі маладых талентаў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Сёння каля шасцісот спевакоў і выкладчыкаў, Вашых вучняў, якіх Вы вывелі на сцэнічныя падмосткі, лічаць Ваш цудоўны юбілей сваім святам і далучаюцца да шматлікіх віншаванняў усёй мастацкай інтэлігенцыі нашай краіны і многіх краін свету.

У залатую скарбонку беларускай музычнай культуры, а таксама сусветнай духоўнай музыкі ўвайшлі лепшыя творы Акадэмічнага хору Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, створаныя пад Вашым мастацкім кіраўніцтвам.

Прыемна ўсведамляць, што Ваша творчасць атрымала высокае прызнанне. Вы лаўрэат буйнейшых Міжнародных конкурсаў. Вам прысвоены ганаровыя званні акадэміка Міжнароднай славянскай акадэміі, народнага артыста СССР.

Дарагі Віктар Уладзіміравіч, прыміце ў дзень Вашага юбілею мае пажаданні поспехаў у творчай працы, моцнага здароўя, добрага настрою, шчасця і дабрабыту.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

23 лістапада 1996 года.

**АКАДЭМІКУ АКАДЭМІІ АГРАРНЫХ НАВУК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І РАСІЙСКАЙ АКАДЭМІІ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ НАВУК СЕВЯРНЁВУ М.М.**

Глыбокапаважаны Міхаіл Максімавіч!

Прыміце мае сардэчныя, шчырыя віншаванні ў сувязі з 75-годдзем з дня нараджэння.

Прыемна, што гэты юбілей супаў з другой знамянальнай для Вас датай — паўвека аддалі Вы навукова-педагагічнай дзейнасці, якая атрымала шырокае прызнанне ў рэспубліцы і за яе межамі.

Усё Ваша жыццё непарыўна звязана з гісторыяй і лёсам беларускага народа.

У цяжкія для краіны гады ваеннага ліхалецця Вы мужна абаранялі яе свабоду. Сведчаннем таго з'яўляюцца Вашы баявыя ўзнагароды.

Дзякуючы яркаму прыроднаму таленту, памножанаму на вялікую працавітасць, Вы дасягнулі значных прафесіянальных вышынь. Неацэнны Ваш уклад у развіццё інжынернай сельскагаспадарчай навукі: створаная Вамі аўтарытэтная школа дала рэспубліцы плеяду бліскучых спецыялістаў у галіне сельскагаспадарчых ведаў. Ваша работа на адказных дзяржаўных пасадах, арганізатарскі вопыт зрабілі плённы ўплыў на развіццё сельскай гаспадаркі Беларусі.

Жадаю Вам, паважаны Міхаіл Максімавіч, моцнага здароўя, шчасця, новых поспехаў, здзяйснення творчых задум.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

# АДНЫМ СКАЗАМ

Колькасць **насельніцтва Зямлі** да 2025 года павялічыцца да 8,294 мільярда чалавек.

Сярод беспрацоўных Гомеля самую буйную долю складае **моладзь ва ўзросце да 25 гадоў** — 38,9 працэнта. Гэта выпускнікі прафтэхвучылішчаў, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных устаноў.

Сёння некамплект беларускай арміі складае **каля дзвюх тысяч афіцэраў.**

У сталіцы рэспублікі такога **цёплага лістапада**, як сёлета, не было з 1967 года, калі сярэднямесячная тэмпература склала 7,2 градуса.

У Беларускай асацыяцыі мнагадзетных сем'яў налічваецца зараз звыш пяці тысяч членаў, а ўсяго ў рэспубліцы **звыш 110 тысяч мнагадзетных сем'яў,** якія выхоўваюць траіх і больш дзяцей.

На 1 лістапада доўг па разліках за газ перавысіў 170 мільёнаў долараў ЗША.

# БЯССОННАЙ НОЧЧУ НАРАДЗІЎСЯ КАМПРАМІС...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

17 гадзін вечара стала вядома, што з Масквы вылятае самалёт з Віктарам Чарнамырдзіным, Генадзем Селязнёвым і Ягорам Строевым на борце. Расійскія кіраўнікі выступілі ў ролі своеасаблівай пажарнай каманды, каб загасіць полымя канфлікту ў Мінску, які вось-вось мог успыхнуць з новай сілай. На раніцу 22 лістапада намячалася пасяджэнне Канстытуцыйнага суда з разглядам справы аб парушэнні Канстытуцыі Прэзідэнтам А. Лукашэнкам, ці, больш проста, справа аб імпічменце. Трэба зазначыць, што расіянам на гэты момант удалося патушыць полымя канфлікту. Але далося гэта зусім не лёгка.

Спачатку адбыліся асобныя перамовы А. Лукашэнкі з В. Чарнамырдзіным і асобныя кансультацыі паміж С. Шарэцкім, Я. Строевым і Г. Селязнёвым. Апошнія прыбылі з аэрапорта ў будынак Вярхоўнага Савета прыкладна ў 20.45. Роўна праз тры гадзіны яны завяршылі свае размовы і чакалі, калі закончацца перамовы Чарнамырдзіна з Лукашэнкам.

— Мы вельмі ўдзячныя нашым расійскім калегам, якія прыехалі да нас у нялёгкі для нас час. Выступаючы ў Смаленску, я ўжо гаварыў, што калі чалавеку цяжка, то яму нельга заставацца аднаму са сваімі звадкамі. Ён абавязкова павінен шукаць кантакты і паразуменне са сваімі самымі блізкімі людзьмі. Таму і мы ўчора і сёння звярнуліся да нашых расійскіх таварышаў. Цяпер у нас для гэтага ёсць і прававая аснова, бо створана наша Супольніцтва, — заявіў пасля першай часткі перамоў Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі, падкрэсліўшы, што ён вельмі задаволены іх вынікамі.

Старшыня Дзярждумы Расіі Генадзь Селязнёў зазначыў:

— Для нас самае галоўнае, каб Вярхоўны Савет працаваў нармальна, без гэтай канфрантацыі. Мы даражым лёсам Супольніцтва і таму не хочам, каб з'явілася нейкая разбуральная сіла, якая перавярнула б увесь наш дагавор і нічога ад нашага Супольніцтва не пакінула, акрамя насмешак.

Пасля гэтага імправізаванага брыфінгу тры спікеры далучыліся да А. Лукашэнкі і В. Чарнамырдзіна. Перамовы гэтай пяцёркі працягваліся значна даўжэй, каля 6 гадзін, і былі больш складанымі і драматычнымі. Адбываліся яны за зачыненымі дзвярыма. Аднак у іншых пакоях і фае Палаца прыёмаў на Вайсковым завулку ў Мінску знаходзілася амаль уся дзяржаўная эліта нашай краіны. Гэта парламентарыі Генадзь Карпенка, Пятро Краўчанка, міністр юстыцыі Валянцін Сукала, саветнік Прэзідэнта Урал Латыпаў, кіраўнікі Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў, міністры, кіраўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі і іншыя. Ноччу да гэтага будынка пад'язджалі і ад'язджалі ўсё новыя і новыя службовыя асобы, удзел якіх у пошуку кампрамісу быў неабходны. Аднак несумненна, што галоўны цяжар складаных перамоў узялі на сябе А. Лукашэнка і С. Шарэцкі пры пасрэдніцтве В. Чарнамырдзіна, Г. Селязнёва і Я. Строева.

Віктар Чарнамырдзін у рэшце рэшт заўважыў, што расійскія палітыкі былі толькі сведкамі гэтага працэсу і не ўмешваліся ў яго.

Прыкладна а 6 гадзіне раніцы адбылася ўрачыстая цырымонія падпісання выпрацаваных за гэтую ноч дакументаў: «Пагадненне аб грамадска-палітычнай сітуацыі і канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь» і рашэння Вышэйшага Савета Супольнасці Беларусі і Расіі № 10. Журналістам гэты дакумент прадставіў Прэзідэнт А. Лукашэнка, які заявіў, што падпісанае пагадненне ўяўляе сабой выйсце з канстытуцыйнага крызісу, у якім аказалася Рэспубліка Беларусь. Паводле яго слоў, гэтае пагадненне мае патрэбу ў зацвярджэнні парламентам. Вышэйшы Савет Супольнасці адобрыў гэтае пагадненне тут жа, у гэтай зале.

Сутнасць названага пагаднення ў тым, што Прэзідэнт адмяняе свае ўказы ад 5 і 7 лістапада гэтага года, якія фармулявалі парадак абавязковага галасавання на рэферэндуме па канстытуцыйным пытанні. Такім чынам, Прэзідэнт пагаджаецца з рашэннем Канстытуцыйнага суда аб тым, што пры існуючай нарматыўнай базе на абавязковы рэферэндум змяненні і дапаўненні Канстытуцыі выносіцца не могуць. Пацвярджаецца, што рэферэндум пройдзе 24 лістапада і яго вынікі па праектах Канстытуцыі будуць мець рэкамендацыйны характар. У сваю чаргу Вярхоўны Савет у асобе яго Старшыні забяспечвае адкліканне з Канстытуцыйнага суда прапановы дэпутатаў аб ініцыіраванні імпічменту Прэзідэнта. Старшыня Канстытуцыйнага суда В. Ціхіня пагадзіўся з тым, што суд у такім разе спыніць вытворчасць па справе аб парушэнні Прэзідэнтам Канстытуцыі.

У названым пагадненні закладваецца новы парадак канстытуцыйнай рэформы: на працягу 20 дзён пасля рэферэндуму на парытэтных пачатках фарміруецца Канстытуцыйны сход, у які ўваходзяць 50 дэпутатаў ад усіх фракцый Вярхоўнага Савета і 50 прадстаўнікоў Прэзідэнта. Сход узначальвае А. Лукашэнка. Мяркуецца, што рашэнні Канстытуцыйнага сходу будуць прымацца большасцю галасоў ад яго агульнага саставу. Гэты сход павінен на працягу 3 месяцаў на аснове тэкстаў змяненняў і дапаўненняў да Канстытуцыі, якія атрымалі большасць на рэферэндуме, прымаць новую рэдакцыю Асноўнага закона нашай краіны.

Тут трэба зазначыць, што падобныя органы для прыняцця Канстытуцыі ў сённяшнім Асноўным законе не прадугледжаны. Таму, відавочна, каб выканаць гэты пункт пагаднення, дэпутатам Вярхоўнага Савета давядзецца прыняць канстытуцыйны закон аб такім сходзе і перадаць яму пэўную частку сваіх паўнамоцтваў па прыняццю Канстытуцыі, распрацаваць рэгламент дзейнасці гэтага сходу. Толькі ў такім разе можна будзе лічыць паўнамоцтвы гэтага сходу легітымнымі — аб гэтым ужо заявілі дэпутаты Вярхоўнага Савета падчас абмеркавання падпісанага пагаднення.

Агульна ацэньваючы пагадненне паміж А. Лукашэнкам і С. Шарэцкім, трэба зазначыць, што Прэзідэнт атрымлівае пэўныя перавагі пры арганізацыі дзейнасці Канстытуцыйнага сходу. Непасрэдна ён дэлегуе ў гэты сход 50 сваіх прадстаўнікоў, немалая частка іх трапіць і ад прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода» ў Вярхоўным Савеце. Аднак тут трэба прызнаць, што ў такім разе прынятая з папраўкамі Канстытуцыя можа лічыцца легітымнай — у адрозненне ад таго варыянта, калі б яна прымалася на рэферэндуме пасля адпаведнага рашэння Канстытуцыйнага суда. Таму частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета палічыла падпісанае С. Шарэцкім пагадненне як адступленне. У прыватнасці, выказваюць такія думкі дэпутаты ад фракцыі «Грамадзянскае дзеянне». Сам жа Сямён Шарэцкі, ацэньваючы падпісаныя дакументы, заявіў, што яны не азначаюць паражэння большасці Вярхоўнага Савета, што ніхто нікога не перамог, але верх узяў розум. Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу спадзяецца на выніковасць дзейнасці Канстытуцыйнага сходу: «Я думаю, мы прыйдзем да згоды».

— Гэта вельмі важны крок кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь. Спыняюцца ўсе канфрантацыі. Мы рады гэтаму рашэнню, — заявіў пасля падпісання гэтых дакументаў Віктар Чарнамырдзін. Расійскі бок, паводле слоў С. Шарэцкага, выступіў гарантам дасягнутых пагадненняў.

За гэтымі падзеямі ў Беларусі сачыла вялікая колькасць журналістаў з многіх краін свету. Частка з іх была акрэдытавана Адміністрацыяй Прэзідэнта, частка — прэс-службай Вярхоўнага Савета. Падчас перагавораў намаганні абедзвюх службаў былі аб'яднаны. Упраўленне інфармацыі Сакратарыята Вярхоўнага Савета дало дазвол на здымкі ў парламенце нават прадстаўнікам Белдзяржтэлерадыёкампаніі. У сваю чаргу Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай адміністрацыі дапусціла ўсіх акрэдытаваных пры Вярхоўным Савеце журналістаў на падвядзенне вынікаў перагавораў на Вайсковым завулку. Накіравалася туды каля сотні журналістаў. На жаль, з-за няўзгодненасці значнай часткі з іх давялося стаяць каля гадзіны каля кратаваных варот і чакаць, калі іх усё ж прапусцяць у будынак. Улічваючы важнасць падзеі, гэта было зроблена, нягледзячы на тое, што некаторыя журналісты крыху спазніліся да пачатку перагавораў. Аднак і пасля гэтага некалькі журналістаў, у тым ліку і карэспандэнт «Звязды», не змаглі трапіць у будынак, дзе ішлі перагаворы, нягледзячы на тое, што мелі карткі аб пастаяннай акрэдытацыі ў Вярхоўным Савеце і былі асабіста добра вядомы супрацоўнікам Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі. Адбылося гэта па прычыне таго, што былі пераблытаны спісы. Тым не менш, непрыемна было ў тры гадзіны ночы пакідаць завулак Вайсковы ні з чым. Асабліва крыўдна, што гэта давялося зрабіць амаль выключна прадстаўнікам беларускай прэсы: карэспандэнтам «Народнай газеты», «Звязды», «Беларускай газеты», «Свабоды», «Нашай нівы»... Замежныя карэспандэнты, якія, у адрозненне ад нас, без праблем трапілі ў будынак на завулку Вайсковым, зліталіся над намі і ўзялі на запіс наш дыктафон.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# ПРОЦІСТАЯННЕ СПЫНЕНА?..

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

дзеючай Канстытуцыі. З поўнай падтрымкай пагаднення выступіў толькі Уладзімір Канаплёў, які ўзначальвае дэпутацкае аб'яднанне «Згода».

Больш падрабязна мы папрасілі пракаменціраваць сітуацыю Сямёна Домаша, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які, дарэчы, пакінуўшы фракцыю «Згода», зараз з'яўляецца незалежным дэпутатам. Паводле яго слоў, пагадненне не задаволіць людзей, якія добра разумеюць становішча ў краіне і валодаюць дакладнай інфармацыяй аб яго развіцці. «Па-першае, фарміраванне Канстытуцыйнай камісіі, упаўнаважанай распрацоўваць і прымаць Асноўны закон, не прадугледжана ў дзеючай Канстытуцыі, — сказаў С. Домаш. — І таму трэба было, каб і С. Шарэцкі, і А. Лукашэнка пра гэта ўспомнілі, калі падпісвалі гэты дакумент. Па-другое, сам працэс фарміравання гэтай камісіі толькі знешне прадугледжвае парытэтныя пачаткі. На самай справе прадстаўніцтва будзе розным, паколькі бок Прэзідэнта будуць прадстаўляць не толькі 50 чалавек, прызначаныя непасрэдна ім, але і дэпутаты прэзідэнцкай фракцыі «Згода». Такім чынам, перавага аднаго боку бясспрэчная. Па-трэцяе, за аснову для распрацоўкі будзе ўзяты праект Канстытуцыі, які атрымае большую падтрымку на рэферэндуме. Улічваючы шматлікія парушэнні заканадаўства, адсутнасць на участках парламенцкага праекта і абсалютную інфармацыйную блакаду і масавую знявагу дзейнасці дэпутатаў, няма сумненняў у перамозе праекта, прапанаванага А. Лукашэнкам. Такім чынам, ужо зараз закладзены перавагі выканаўчай улады і Прэзідэнта.

«Сямён Домаш таксама заўважыў, што, улічваючы вышэйсказанае, нельга чакаць, што падпісанае пагадненне паложыць, нарэшце, канец процістаянню ў краіне. «Крызіс не вырашаны. Ён проста нагадвае спружыну, якой не далі выпраставацца. Таму ў гэтай сітуацыі найбольш аптымальным быў бы варыянт, калі б Канстытуцыйная камісія толькі падрыхтавала праект змяненняў у Канстытуцыю, якія б потым законным шляхам, згодна з існуючай працэдурай, былі адобраны Вярхоўным Саветам. У гэтым разе будзе хоць нейкая надзея на рэальныя, а не дэкларатыўныя, змены ў бок дэмакратыі і задавальнення інтарэсаў і прымірэння ўсіх палітычных сіл, уцягнутых у канфлікт.» Акрамя таго, сп. Домаш выказаў занепакоенасць, што выканаўчая ўлада можа скарыстаць паўзу для таго, каб канчаткова дэзарганізаваць Вярхоўны Савет, будзе працягваць ціск на дэпутатаў з мэтай пазбаўлення ад апанентаў і іншадумцаў.

Мы папрасілі Віктара Ганчара таксама пракаменціраваць апошнія падзеі і выказаць сваё бачанне вырашэння крызісу. Віктар Іосіфавіч заявіў, што не схільны расцэньваць пагадненне як выхад са становішча: «Кампраміс на руінах Канстытуцыі не можа прывесці да стабілізацыі». Далейшы ход падзей, на яго думку, можа развівацца па двух сцэнарыях. Паводле першага, калі Вярхоўны Савет не адобрыць заключаную дамову, яе палажэнні ўсё роўна будуць выконвацца са спасылкай на аўтарытэтнасць подпісаў, але пры гэтым Вярхоўны Савет будзе абвінавачаны ў дэзарганізацыі перамоў. Калі ж парламент захоча пагадзіцца з палажэннямі дакумента, то для гэтага трэба будзе захаваць працэдуру, неабходную пры прыняцці рашэнняў такога кшталту. Зыходзячы з яе, парламент пакуль можа адобрыць дакумент толькі ў першым чытанні. А гэта ў сваю чаргу зноў стане падставай для абвінавачанняў. «Такім чынам, па сутнасці здалі не Цэнтрвыбаркам, як камусьці можа падацца, а Вярхоўны Савет», — падкрэсліў В. Ганчар.

Мяркуючы па выказваннях большасці дэпутатаў, якія засталіся на пазіцыях Вярхоўнага Савета Беларусі, заключаная напярэдадні дамоўленасць расцэнена як маральная перамога над Вярхоўным Саветам, паколькі толькі мізэрная частка ўмоў, якія ён ставіў, задаволена. Разам з тым інфармацыйная ізаляцыя заканадаўчага органа застаецца ранейшай: парламент не атрымлівае доступу да сродкаў масавай інфармацыі, каб непасрэдна растлумачыць людзям уласную прынцыповую пазіцыю, не маючы такім чынам магчымасці не толькі ўплываць на сваіх выбаршчыкаў, але нават абвергнуць беспадстаўныя абвінавачанні, што выказваюцца ў яго адрас.

Такім чынам, міратворчая акцыя расійскіх палітыкаў, якая, дарэчы, таксама неадназначна расцэнена ў Беларусі, толькі толькі часова знізіла напружанасць у грамадстве і ў палітычным асяроддзі. Сутнасць жа канфлікту, які разгарэўся з-за жадання Прэзідэнта А. Лукашэнкі моцна пашырыць свае правы, засталася нявырашанай, паколькі трэба чакаць, што гэтае імкненне зноў з'явіцца падчас работу канстытуцыйнай камісіі. У гэтых умовах некаторыя дэпутаты выказваюцца за тое, каб канстытуцыйныя змены ў Беларусі адбываліся законным шляхам і нагадваюць, што ў парадак дня сесіі парламента ўключана пытанне аб унясенні ў Канстытуцыю змяненняў і дапаўненняў, прапаноў Прэзідэнта, якія прадугледжвалі б пашырэнне паўнамоцтваў урада і ўмацаванне сацыяльнай сферы. Нагадаю, што падчас сваіх выступленняў на сустрэчах з народам Аляксандр Лукашэнка менавіта гэтым тлумачыць неабходнасць правядзення канстытуцыйнай рэформы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**РАСІЯ ЗБІРАЕЦЦА ДАЛУЧЫЦЦА ДА АЗІЯЦКА-ЦІХААКІЯНСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА**

У рамках падрыхтоўкі да чацвёртай сустрэчы ў вярхах лідэраў 18 краін і тэрыторый, якія ўваходзяць у форум Азіяцка-Ціхаакіянскага эканамічнага супольніцтва, учора ў Маніле пачалася нарада міністраў замежных спраў членаў гэтай арганізацыі. На парадку дня, у прыватнасці, выпрацоўка рашэння аб умовах прыёму новых членаў. Жаданне далучыцца да супольніцтва выказалі 11 краін, у тым ліку Расія.

**ХТО ЎЧЫНІЎ РАСПРАВУ НАД УЦЕКАЧАМІ?**

Паступаюць дадатковыя сведчанні адносна кампаній па знішчэнню ўцекачоў у Бурундзі, якое адбылося ў мінулым месяцы. Афіцыяльныя прадстаўнікі камісіі па справах уцекачоў пры ААН заявілі, што каля 300 тысяч уцекачоў, якія вярнуліся з Усходняга Заіра ў Бурундзі, былі забіты на тэрыторыі царквы, якую яны выкарыстоўвалі ў якасці даху над галавой. Невядома пакуль, хто ўчыніў гэтыя забойствы.

**ВЫНІКІ МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ У СЕРБІІ ПРЫЗНАНЫ НЕСАПРАЎДНЫМІ**

Згодна з крыніцай, у асяроддзі сербскай апазіцыі ў Бялградзе, актывістка апазіцыі спадарыня Драскавіч шчасліва вярнулася дадому. Пазаўчора ноччу яе муж, лідэр сербскай апазіцыі Драскавіч, публічна выказаў апасенне, што яна магла быць выкрадзена па загаду прэзідэнта Мілошэвіча пасля таго, як дала сербскаму дзяржаўнаму тэлебачанню даволі палемічнае інтэрв'ю. Між тым на вуліцах Белграда студэнты праводзяць дэманстрацыі пратэсту супраць таго, што апазіцыя назвала маніпуляцыяй з боку кіруючых сацыялістаў на мясцовых выбарах, якія праходзілі ў мінулую нядзелю. Вынікі выбараў, у якіх у некаторых гарадах перамагла апазіцыя, былі адменены.

**АСАХАРА Ў СУДЗЕ ДРЭННА СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ**

Былы лідэр экстрэмісцкай секты «Аум-Сенрыкё» Асахара ўжо амаль месяц не дае такійскаму суду магчымасці нармальна праводзіць слуханні па яго справе. Учора ён зноў паспрабаваў сарваць пасяджэнне суда, за што і быў папярэджаны старшынёй аб недапушчальнасці падобных дзеянняў.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода». «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ці магчыма жыць з нажом у галаве? 26-гадовы бразілец Сідней Кейроз змог. А пачалося ўсё з бойкі. Пасля яе Сідней два тыдні еў, піў, спаў, хадзіў на працу. Вось толькі правы бок твару пасля бойкі аказаўся паралізаваным. Калі ўрачы зрабілі рэнтген, то здзівіліся: у галаве іх пацыента аказалася... 13-сантыметровае лязо нажа. Як лагічна вырашылі медыкі, у час бойкі нож прайшоў праз поласць носа і ручка абламалася, а тонкае лязо засталося ў галаве, не закрануўшы жыццёвых артэрый мозгу. Нейрахірургі доўга вагаліся, як выцягнуць лязо, нічога не пашкодзіўшы. Аперацыя прайшла паспяхова, і Сідней стаў яскравай «зоркай» — на цуд жадаюць паглядзець і журналісты, і медыкі з іншых бальніц.

**ІТАР-ТАСС.**

# ЦІ ПРЫЙДЗЕ ЗІМА СВОЕЧАСОВА?

Такой цёплай восені, як цяпер, не было ўжо даўно. Так, год таму у сярэдзіне лістапада на зямлі ўжо ляжаў снег і дзённая тэмпература апусцілася ніжэй нулявой адзнакі. Зусім хутка прыйдзе каляндарная зіма, а таму ўсіх цікавіць пытанне, ці прынясе яна з сабою сапраўдныя халады.

Як паведамілі ў Белгідрамеце, сярэднесутачная тэмпература ў лістападзе была на 4—8 градусаў вышэй нормы. Але апошні тыдзень месяца цяплом не парадуе: ужо 24-25 лістапада тэмпература знізіцца ўначы да -3—+2 градусаў, удзень — да 0—+4 градусаў цяпла. Чакаецца няўстойлівы характар надвор'я, часам ападкі ў выглядзе мокрага снегу. Так што, хутчэй за ўсё, зіма сябе доўга чакаць не прымусіць.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*У АПОШНЮЮ ХВІЛІНУ*

## ДЭПУТАТЫ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ПАДПІСАНАЕ ПАГАДНЕННЕ

22 лістапада пасля абмеркавання ў камісіях і фракцыях падпісанага А. Лукашэнкам і С. Шарэцкім пагаднення аб умовах канстытуцыйнай рэформы, дэпутаты прыступілі да абмеркавання гэтага дакумента. У Авальную залу прыйшоў Прэзідэнт Беларусі, а таксама парламенцкія дэлегацыі з Украіны, Польшчы і Еўрапарламента. А. Лукашэнка спыніўся на прынцыповых момантах падпісання пагаднення, зазначыўшы, што яно стала вынікам кампрамісу ў рэальных умовах. Ён паставіў некалькі ўмоў перад дэпутатамі: рашэнне павінна быць прынята ў той жа дзень, 22 лістапада. Па 2-х важнейшых пунктах галасавання павінна мець канстытуцыйны характар (большасцю 2/3). У яго не могуць быць унесены дапаўненні і змяненні і не можа быць ніякіх іншых умоў з боку парламента.

На працягу дзвюх з лішкам гадзін ішло бурнае абмеркаванне падпісанага папярэдняй ноччу пагаднення. Дэпутат Валерый Новак заявіў, што яно азначае «10:0 на карысць юрыстаў Прэзідэнта», бо носіць аднабаковы, выгадны Прэзідэнту характар: А. Лукашэнка абавязаны адмяніць толькі два незаконныя ўказы, а Вярхоўны Савет павінен адклікаць пытанне аб імпічменце і ісці на іншыя крокі, якія будуць парушаць дзеючую Канстытуцыю. Генадзь Карпенка заявіў, што прапановы парламентарыяў у выніку абмеркавання гэтай праблемы з Г. Селязнёвым і Я. Строевым былі наступныя: адмена ўсіх указаў, якія былі прызнаны КС незаконнымі, адмена імпічменту, кансультатыўны характар канстытуцыйнага рэферэндуму і стварэнне Пагаджальнай камісіі па дапрацоўцы Канстытуцыі. Але прапановы дэпутатаў былі мала ўлічаны.

З рэзкай крытыкай падпісанага пагаднення выступілі таксама А. Лябедзька, А. Клімаў, С. Багданкевіч, В. Абрамава. Усе яны гаварылі аб грубейшых парушэннях у час правядзення рэферэндуму, аб адсутнасці кампрамісу ў названым пагадненні, аб супярэчнасці яго пунктаў дзеючаму Асноўнаму закону, аб тым, што Прэзідэнт дабіўся сабе яшчэ больш выгадных умоў, чым меў раней.

Іншую пазіцыю выказаў І. Пашкевіч, які заявіў, што дэпутатам нельга пярэчыць падпісаным пагадненнем і просьбам Вышэйшага Савета Супольніцтва.

Перапыніўшы дыскусію, слова ўзяў Прэзідэнт, які заявіў, што ў выніку імпічменту «патрасенні будуць капітальнымі». «Я, як кіраўнік дзяржавы, у рамках Пагаднення зраблю ўсё, каб воля народа, выказаная на гэтым рэферэндуме, мела выключна абавязковы характар для кожнага грамадзяніна, для кожнай галіны ўлады», — заявіў А.Лукашэнка.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Крызіс у Беларусі закончыўся. І гэта адбылося пры ўдзеле Расіі

**Масква. 22 лістапада. ІНТЭРФАКС.** Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын лічыць вырашэнне крызісу ў Беларусі вялікай перамогай. У тэлеінтэрв'ю, якое было запісана ў пятніцу, прэзідэнт адзначыў, што ў Беларусі даўно наспяваў сур'ёзны крызіс улады. Як падкрэсліў Барыс Ельцын, Расія, як дружалюбная краіна, як член СНД і член Расійска-беларускага Супольніцтва, не магла дапусціць расколу беларускага грамадства.

## Дзякуючы ўмяшальніцтву Ельцына, «пагроза маштабнага кровапраліцця» ў Беларусі мінавала

**Масква. 22 лістапада. ІНТЭРФАКС.** Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта РФ Анатоль Чубайс лічыць, што «развіццё падзей ў Беларусі па экстрэмальным шляху, што пагражала кровапраліццём, удалося пазбегнуць дзякуючы энергічнаму ўмяшальніцтву Барыса Ельцына. А. Чубайс падкрэсліў у гутарцы з групай журналістаў, што прэзідэнт быў у курсе падзей на Беларусі, якая «знаходзілася перад пагрозай маштабнага кровапраліцця».

# СУСТРЭЧА ПРАЗ ПАЎГОДА,

### або Як дзякуючы намаганням праваахоўных органаў і грамадскасці дзвюх краін удалося вярнуць дачку маці




(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Недзе ў 13 гадзін дня самалёт з Капенгагена прызямліўся. У праёме дзвярэй паказаўся маладжавы мужчына з дзяўчынкай. Як высветлілася, гэта быў бельгійскі паліцэйскі, а з ім — Віка. У вачах дзяўчынкі насцярожанасць. Следчы Фрунзенскай райпракуратуры г. Мінска Алег Волчак, які расследуе гэту справу, пакрысе разгаварыў дзяўчынку.

Прайшло яшчэ некалькі хвілін. Нарэшце падышла маці. Дзяўчынка насцярожана пазірае на яе. Усё ж мінула паўгода пасля іх апошняй сустрэчы. І месяцы гэтыя прайшлі так далёка ад сям'і, Радзімы, многае сцерлася з памяці. Маці кідаецца да дзяўчынкі, слёзы засцілаюць ёй вочы.

Праходзіць нейкі час, звязаны з ажыццяўленнем неабходных фармальнасцей, а потым міліцэйскі «рафік» бярэ курс на Мінск. Там ужо дзяўчынку чакаюць дзед, бабуля, іншыя родзічы. А мы — у рэдакцыю, хутчэй рыхтаваць матэрыял у нумар.

Вядома, у чытачоў газеты ўзнікне шэраг пытанняў: якім чынам дзяўчынка трапіла ў далёкую краіну, хто яе ўкраў, як удалося перасячы некалькі дзяржаўных межаў? Але пакуль гэта тайна следства, і па меры магчымасці мы пастараемся пра гэта расказаць.

Немалаважны і яшчэ адзін момант. Усе гэтыя месяцы правааахоўныя органы нашай краіны працягвалі настойліва шукаць дзяўчынку. І ў Бельгіі, дзе яна апынулася, паліцыя, грамадскасць не аднесліся абыякава да яе лёсу. Але пра ўсё гэта ў наступных нашых нумарах.

**Рэпартаж з аэрапорта «Мінск-2» вялі карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**



***На здымках:*** першыя крокі на роднай зямлі; самалёт, на якім прыляцела дзяўчынка; у абдымках матулі.

## БРЭСЦКІ ЛІКЁРА-ГАРЭЛАЧНЫ ЗАВОД АТРЫМЛІВАЕ ЧАРГОВУЮ ЎЗНАГАРОДУ

Аб якасці сапраўднай беларускай гарэлкі казаць не прыходзіцца. Па сваіх якасных паказчыках яна пераўзыходзіць многія імпартныя алкагольныя напоі. Таму не дзіўна, што некаторыя сарты айчынных моцных напояў набылі міжнароднае прызнанне. Адзін з вытворцаў, чыя прадукцыя славіцца далёка за межамі рэспублікі, — Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод. На яго рахунку прыгатаванне такіх арыгінальных гарэлак, як «Люкс», «Беларусь». Не так даўно гэтае прадпрыемства ўдастоілася высокай узнагароды — Міжнароднай Залатой зоркі якасці. Урачыстасці і ўручэнне галоўнага прыза праходзілі ў Мадрыдзе.

І вось — новая ўзнагарода Брэсцкага ЛГЗ. Зноў жа ў сталіцы Іспаніі дырэктар завода Васіль Бялко атрымаў ганаровы трафей — «Міжнародную гарантыю за якасць». Кампанію брэстаўчанам склалі Іркуцкі лікёра-гарэлачны завод і Мазырскі саляварны камбінат.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ТРАГЕДЫЯ*

## ЗАГІНУЛА ЎСЯ СЯМ'Я

У Мінску ў адным з дамоў па Лагойскаму тракту здарыўся страшны выпадак. З акна кватэры, размешчанай на восьмым паверсе, выпалі мужчына і дзяўчынка. Аб гэтым паведамілі ў Першамайскае раённае ўпраўленне ўнутраных спраў Мінска сведкі іх гібелі.

Аператыўна-следчая група, трапіўшы ў кватэру, убачыла на падлозе яшчэ адну ахвяру — жанчыну са смяротнай чэрапна-мазгавой траўмай. Як высветлілася ў ходзе расследавання, гэта была 35-гадовая настаўніца, а ў двары ляжалі трупы яе 37-гадовага мужа і дачкі-першакласніцы. Следчыя не выключаюць, што прычынай трагедыі стала сварка ў сям'і.

**Марыя МАЛІНОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ТАЯМНІЦА ПОЛЬСКАГА «ФАЛЬШЫВАМАНЕТНАГА ДВАРА» РАСКРЫТА

**Супрацоўнікіправаахоўных органаў Беларусі, якія змагаюцца з фальшываманетчыкамі, у рэшце рэшт могуць уздыхнуць з палёгкай. Шалёны наплыў падробленых расійскіх рублёў з Польшчы, пэўна, у бліжэйшы час зусім спыніцца.**

Як паведаміў «Звяздзе» старшы опер-упаўнаважаны па асабліва важных справах упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ( УБЭЗ) МУС краіны Рыгор ШВАЙКО, нядаўна польская паліцыя выявіла ў Варшаве падпольную друкарню, дзе выраблялiся фальшывыя расійскія рублі. У гэтым «фальшываманетным двары» былі знойдзены 23 лісты клішэ і 53 лісты матрыц з фрагментамі 210 грашовых знакаў 50-тысячных купюр Банка Расіі. Падчас праверкі устаноўлена, што прадукцыя гэтай друкарні актыўна распаўсюджвалася і на Беларусі. У прыватнасці, на тэрыторыі нашай краіны выяўлена 3 тысячы 585 штук фальшывых купюр расійскіх рублёў, серыі і нумары якіх супадаюць з канфіскаванымі ў Польшчы.

Зрэшты, гэтая падпольная друкарня займалася не толькі вырабам (прычым, на вельмі высокім тэхналагічным узроўні) фальшывых грошай, але і фальшывых акцызных марак, дакументаў на легкавыя аўтамабілі, вадзіцельскіх пасведчанняў. На думку падпалкоўніка Швайко, гэта сведчыць аб тым, што падпольная друкарня належала добра арганізаванай злачыннай групоўцы, якая, відавочна, займалася і нелегальным аўтабізнесам.

Так што, на думку Рыгора Швайко, «разгром фальшываманетнага двара» можа істотным чынам зменшыць і пастаўкі крадзеных аўтамабіляў на Беларусь.

Што датычыць фальшывых расійскіх рублёў, то, па прагнозах спецыялістаў УБЭЗ Міністэрства ўнутраных спраў краіны, іх «нааплыў» у нашу дзяржаву павінен істотна зменшыцца. Бо да гэтага часу, па звестках праваахоўных органаў, існавала два буйныя каналы паступленя падробленых расійскіх грошай на Беларусь: Каўказ і Польшча. І вось «польскі ручаёк» удалося перакрыць. Аднак супраўнікі МУС раяць, тым не менш, грамадзянам краіны быць пільнымі пры ажыццяўленні грашовых аперацый з расійскімі рублямі. Справа ў тым, што на Беларусі яшчэ засталіся раней завезеныя з Польшчы запасы «высакаякаснай фальшыўкі» і злачынцы паспрабуюць іх збыць грамадзянам нашай краіны.

Праўда і работнікі УБЭЗ таксама не дрэмлюць. Напрыклад і за 10 месяцаў гэтага года імі было канфіскавана 37 купюр фальшывых беларускіх рублёў, 2665 купюр рублёў Банка Расіі, 1651 купюра амерыканскіх долараў рознай вартасці, 112 купюр нямецкіх марак. За студзень — кастрычнік сёлетняга года зарэгістравана 1758 фактаў збыту фальшывых грошай на Беларусі. Для параўнання: за аналагічны перыяд мінулага года было зафіксавана 1839 падобных фактаў, гэта значыць назіраецца тэндэнцыя спаду актыўнасці фальшываманетчыкаў у нашай краіне. Бясспрэчна, у гэтым вялікая заслуга супрацоўнікаў УБЭЗ, якімі за 10 месяцаў 1996 года раскрыта 175 злачынстваў, звязаных з падробкай і збытам грошай. За аналагічны перыяд года мінулага было раскрыта на 61 «фальшываманетнае» злачынства менш. Ды і колькасць фальшываманетчыкаў, прыцягнутых да крымінальнай адказнасці за гэтыя злачынствы, таксама павялічылася на 37 чалавек: за 10 месяцаў гэтага года за краты трапілі 112 фальшываманетчыкаў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «ГАЗЕТУ ВАШУ ЛЮБІМ ЧЫТАЦЬ І СЛУХАЦЬ...»

### Сёння спаўняецца 90 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты «Наша ніва»

**Лёсы газет — як і лёсы людзей: складаныя і непаўторныя. На іх, несумненна, уплывае час, сітуацыі ў грамадстве, абставіны рэчаіснасці. Газеты ўзнікаюць, жывуць, закрываюцца... Яны — па-сапраўднаму жывы арганізм. Арганізм эпохі і грамадства. А ацэнкі ім — зноў жа, як і людзям, — выстаўляе час: самы дакладны і правераны экзаменатар-барометр.**

«Нашай ніве» адведзена ў гісторыі асаблівае месца. Час, калі яна пачала выдавацца, быў вельмі складаны, цяжкі, неадназначны. Рэвалюцыйны рух, пачатак якому быў пакладзены расстрэлам масавых шэсцяў рабочых у Пецярбургу 9 студзеня 1905 года, паскорыў ідэйна-палітычнае размежаванне ў грамадскім жыцці краіны. Ролю вядучай сілы ў дэмакратычным лагеры ўзяў на сябе пралетарыят, які перайшоў да адкрытай палітычнай барацьбы з царызмам, вызначыўшы перад сабой наступныя праграмныя задачы: знішчэнне самадзяржаўя, усталяванне дэмакратычнай рэспублікі шляхам склікання Ўстаноўчага сходу, ліквідацыя землеўладання памешчыкаў і іншых феадальна-прыгонніцкіх перажыткаў, права нацый на самавызначэнне. Гэтыя патрабаванні вызначалі праграмы многіх партый і арганізацый, у тым ліку і Беларускай сацыялістычнай Грамады, якая, як вядома, на пачатку стагоддзя стала ў нашым краі адной з уплывовых партый сацыял-дэмакратычнага накірунку.

Друкаваны орган Грамадзе быў вельмі і вельмі патрэбны. Паражэнне рэвалюцыйных выступленняў народа выклікала наступ рэакцыйных сіл, царскага цемрашальства. Просты народ меў вострую патрэбу ў праўдзівым слове. Слове аб сабе, сваім рэальным становішчы, сваіх надзённых патрэбах, мэтах і задачах...

Спачатку — з 1 верасня 1906 года — БСГ выдавала штотыднёвік «Наша доля». Доля — у прамым сэнсе слова — дасталася Грамадзе нялёгкая. Байкатаваўшы булыгінскую Думу, яна па-ранейшаму заклікала да барацьбы з царызмам, дабівацца «права народу сваёй уладай пастанаўляць аб сваіх справах і патрэбах». І ўжо самы першы нумар «Нашай долі» засведчыў: намеры БСГ — сур'ёзныя, іх партыя будзе адстойваць да канца.

Выдавалася газета кірыліцай і лацінкай: першае выданне прызначалася для праваслаўных беларусаў, другое — для католікаў. Дзесяцітысячны тыраж павінен быў данесці народу праўду аб ягоным становішчы, а верш Цёткі (Алаізы Пашкевіч) «Наш палетак», змешчаны ў першым нумары, клікаў беларусаў да нацыянальнага адраджэння. Яшчэ больш канкрэтныя мэты ставіла «Наша доля» ў сваіх наступных нумарах, у прыватнасці, у артыкуле «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» ставілася задача стварэння сялянскіх саюзаў па ўзору прафесіянальных саюзаў рабочых, а ліквідацыя эксплуататараў звязвалася з цесным саюзам працаўнікоў горада і вёскі. З шасці нумароў «Нашай долі» пяць былі арыштаваны і канфіскаваны паліцыяй, а сёмы увогуле знішчаны ў наборы. У студзені 1907 года Віленская судовая палата прыняла рашэнне назаўсёды забараніць выданне газеты.

Але гэта не спыніла намераў грамадоўцаў мець сваё выданне. 23 лістапада 1906 года яны наладзілі ў Вільні выданне новай штотыднёвай газеты «Наша ніва». Заснавальнікамі яе сталі браты Іван і Антон Луцкевічы і Аляксандр Уласаў, мужныя, смелыя і самаадданыя сацыял-дэмакраты.

На самым адметным месцы першага нумара газета засведчыла, што будзе служыць «усяму беларускаму скрыўджанаму народу». Аднак калі раней члены Грамады бачылі вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем жыцця ў паспяховым зыходзе рэвалюцыі, дык зараз свае памкненні яны пачалі звязваць з Дзяржаўнай думай. У снежні таго ж 1906-га штотыднёвік апублікаваў адпаведную праграму, у якой перад Думай ставіліся патрабаванні аб скасаванні ўсіх абмежавальных законаў адносна куплі-продажу зямлі. БСГ была за ўтварэнне хутарской гаспадаркі, выдачу танных крэдытаў і аказанне дапамогі з боку дзяржавы для паляпшэння жыцця, увядзенне так званай усесаслоўнай воласці, у якой ураўноўваліся правы і абавязкі сялян, мяшчан і дваран, а таксама за пашырэнне мясцовага самакіравання, прадастаўленне Беларусі асобнага статусу з соймам у Вільні, абраным усеагульным, роўным, тайным галасаваннем. А яшчэ сацыял-дэмакраты стаялі за адмену ўскосных падаткаў і ўстанаўленне адзінага прагрэсіўнага падаходнага падатку, увядзенне ў нашым краі абавязковай бясплатнай адукацыі, за прадастаўленне магчымасці вучыцца на роднай беларускай мове.

(Працяг на 6-й стар.)

*КВЕТКІ ЗЛА*

# Калі перад вялікімі ўжо дзецьмі ставілі талерку з супам, яны пыталіся, як яго есці

**Стаіць у Оршы шэры дом з кратамі на вокнах. Менавіта гэты будынак на вуліцы Марата стане для дзяцей, што трапілі сюды, нейкім зыходным пунктам, сімвалам мінулага альбо пачаткам будучыні. На вуліцы Марата — «гасцініца» ў ...кратах.**

### Прэамбула

Зайсці ў прыёмнік-размеркавальнік Віцебскага ўпраўлення ўнутраных спраў прымусіў выпадак.

— «Атас, «менты», — пачуўся літаральна ля вуха дзіцячы шэпт. Азірнуўшыся, заўважаю, як гурт брудных абарваных дзяцей кідаецца ўрассыпную. Праз нейкі час між гандлёвых радоў сапраўды з'яўляецца міліцэйскі нарад. А нечаканых «знаёмцаў» ужо і след прастыў.

Праз некалькі гадзін заўважаю іх зноў — адзін з іх баязліва выглядвае з-за піўнога ларка і, сустрэўшыся са мною позіркам, падбягае з жаласлівай просьбай: «Дзядзечка, дай грошай на хлеб!» Я прапаноўваю яму разам наведаць краму непадалёку. Хлопец з неахвотай згаджаецца. Па дарозе знаёмімся — Міця (так ён назваўся) блытана гартае перада мной старонкі свайго жыцця: нарадзіўся ў Оршы, бацькі без прасыпу п'юць, таму і «хлеб надзённы» прыходзіцца здабываць самому. І гэта ў сем гадоў. Пра школу Міця нават не прамовіў ні слова — маўляў, настаўнікі ж не пакормяць, ад іх толькі здзекі ды павучанні, нічога болей. Таму школа існуе для хлопчыка толькі як магчымасць калі-небудзь пасядзець гадзіну-другую ў цяпле. А пасля — на задворкі. «Я ўжо прывык, — кажа Міця, — амаль тры гады так «працую». (Атрымліваецца, што мой нечаканы знаёмец з чатырох гадоў пайшоў на вуліцу. Як набыў ад прыроды магчымасць трывала трымацца на нагах — так адразу і пайшоў «у людзі».)

Між тым, мы ўжо падыходзім да крамы, і Міця зноў азадачвае мяне: «Вы грошай дайце, я і сам хлеба куплю». Я адмоўна ківаю галавою, і тут хлопец зрываецца з месца і куляй імчыцца займаць чаргу. Калі ўваходжу ў краму, то ў думках дзякую маламу — памяшканне да таго набіта людзьмі, што не прадыхнуць. Усе навокал мэтанакіравана дастаюць пакеты, сумкі, лічаць грошы. У асноўным гэта, вядома ж, жыхары вёсак, якія прыехалі ў Оршу, каб набыць неабходныя прадукты харчавання. Бо, як тлумачыць адна бабуля ў чарзе, аўталаўка прыязджае да іх раз на тыдзень, і хлеба ўсім не хапае, таму прыходзіцца наведваць райцэнтр.

Міця махае мне рукою, знаходзячыся ўжо зусім недалёка ад касы. Праціскаюся ў натоўпе, адначасова чуючы злосныя эпітэты ў свой бок. Адна з жанчын нават папракае: да чаго ж, маўляў, ты дзіця давёў! Хвілін праз дзесяць мы ўсё ж выходзім з хлопцам на вуліцу, трымаючы ў руках запаветныя боханы. Развітваемся. «Галоўнае, каб мне ў «гасцініцу» да міліцыянераў не трапіць, — гаворыць Міця. — А то бацька зноў будзе дубасіць. Праўда, на вуліцы Марата можна і пераначаваць, і пакормяць там. Але потым зноў жа дамоў вяртацца...»

Хударлявая постаць знікае за вуглом крамы. А да мяне зноў падбягае такі ж «Міця»: «Дзядзечка, дай на хлеб!..»

### «Гасцініца»

Пошукі прыёмніка-размеркавальніка адабралі шмат часу. Міця быў упэўнены, што назваў правільны арыенцір — раён «Раніцы», але мне, як нетутэйшаму, давялося апытаць не аднаго чалавека, пакуль, нарэшце, прачытаў на шыльдзе: «Вуліца Марата». Азіраючыся навокал, знаходжу, нарэшце, патрэбны будынак, дакладней — цэлы комплекс будынкаў. Невялічкія шэрыя домікі, іх нават не заўважыш адразу за вялізнымі катэджамі. Мясціны неблагія, ды і Днепр зусім блізка, таму і ўзводзяць тут сабе палацы «новыя беларусы». З вокнаў апартаментаў нечакана пачуўся магнітафонны запіс Уладзіміра Высоцкага: «Ах, гасцініца мая, ты гасцініца». Я аж здрыгануўся ад супадзення...

Пераступіўшы парог размеркавальніка, сустракаюся з позіркамі дзіцячых вачэй з-за кратаў і ўспамінаю Міцю: «...каб толькі не трапіць у гасцініцу...»

Заходжу ў кабінет да начальніка прыёмніка Уладзіміра Мікалаевіча Траяна. У таго на стале — кіпы спраў, цэлая куча дзіцячых лёсаў. Начальнік прытулку, начальнік лёсаў.

З размовы даведваюся пра даволі цікавую гісторыю будынка, які быў узведзены ажно ў 1896 годзе, гэта значыць сто гадоў таму. Своеасаблівы «юбілей»... Спачатку тут знаходзіўся панскі маёнтак, потым яго перакупіў яўрэй — зубны ўрач. Пасля таго рэпрэсіравалі, і з 1946 года пачалася гісторыя прыёмніка-размеркавальніка. Увогуле ж, падобная ўстанова існавала менавіта ў Оршы з 1943 года, а пяцьдзесят гадоў таму пераехала ў былы маёнтак. З таго часу малых прывозяць сюды, у «гасцініцу».

### Жыхары

По словах Уладзіміра Мікалаевіча, прыёмнік-размеркавальнік прызначаны для дзяцей ад трох да васемнаццаці гадоў. Трапляюць сюды перш за ўсё тыя, чые бацькі пазбаўляюцца бацькоўскіх правоў. Ён становіцца як бы пераходным этапам перад адпраўкай у дзіцячы дом, мяжой жыцця. Зараз сірот пры жывых бацьках, на думку Траяна, стала вельмі шмат, амаль кожны дзень з якога-небудзь населенага пункта Віцебскай вобласці прывозяць такіх дзяцей. Вось і зараз, у час майго візіту, тут знаходзіліся чацвёра малых, якія падпадалі пад гэтую «катэгорыю». Два браты з адной сям'і, два — з другой. Калі мы ўвайшлі ў так званую «гульнявую» (гэта значыць там, дзе дзеці знаходзяцца амаль увесь дзень) адзін са зноў прыбыўшых займаўся ўборкай — шоргаў мокрым венікам па падлозе. Нягледзячы на яўны недахват сродкаў (даволі беднае абсталяванне пакояў), усё навокал было акуратна і чыста. Рэжым... Мяне зацікавіў менавіта рэжым дня, распарадак «жыхароў» прыёмніка. Ну звычайнае — пад'ём-адбой, снеданне, абед-вячэра, а потым... работа з кнігай, што, вядома ж, здзівіла. «Так, з дзецьмі ўвесь час працуе выхавальнік, — адказаў на маё нямое пытанне начальнік. — Вы ж не думайце, што толькі вартаўнік прысутнічае пры іх вучобе».

Выхавальнік. Ну, з дзецьмі з так званых няўдачных сем'яў, з тымі, каго падкінулі на ганак радзільнага дома, яшчэ можна весці гутарку, а са злачынцамі? Аказваецца, самы злосны з людзей увесь час застаецца менавіта дзіцем, чакаючы ласкі і пяшчоты. Загаворыць з ім ласкава выхавальнік, ён усё, што ведае, можа расказаць. Бывае і такое. Многія з прыбыўшых ніколі ніводнага добрага слова не чулі з бацькоўскіх вуснаў. Нават не ведалі, што такое першая страва: калі перад вялікімі ўжо дзецьмі ставілі талерку з супам, яны пыталіся, як яго есці. Вядома ж, прывыклі да зусім іншага абыходжання — калі застанецца пасля бацькоўскай п'янкі якая-небудзь закуска, тым і харчаваліся. А тут прыязджаюць — адразу ў лазню, пасля перакусяць і тэлевізар можна глядзець. Прымушаць да таго, каб венік у рукі ўзялі, не трэба, самі просяць. Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: прыёмнік становіцца для трапіўшых сюды дзяцей як бы часцінкай таго свету, ад якога яны ўвесь час былі адарваныя. Проста не ведалі пра дабрыню, чысціню, любоў. З іх ляпілі патэнцыяльных зладзеяў, жорсткіх рабаўнікоў. Пад уплывам бацькоўскага прыкладу развіццё падобным шляхам ідзе вельмі хутка: так, Уладзімір Мікалаевіч расказаў мне пра васьмігадовага хлопчыка, за якім было прызнана васемнаццаць(!) крадзяжоў.

Апошнім часам узрастае колькасць «жыхароў» прыёмніка: калі за ўвесь мінулы год іх было 258, то ўжо сёлета зафіксавана 260. І хоць будынак можа прыняць да 350 чалавек у год, такое павелічэнне, вядома, выклікае вялікую трывогу. Да таго ж асноўную колькасць «жыхароў» складаюць асобы да 14 гадоў. Калі раней, яшчэ пяць гадоў таму, сюды ў асноўным траплялі 17-18-гадовыя падлеткі, то зараз «працэс» значна амаладзіўся. Паменела і так званых ідэйных бадзяг — хіпі, фанатаў (якія, напрыклад, ездзілі па ўсёй краіне за сваімі кумірамі — эстраднымі зоркамі, спартыўнымі камандамі). Сярод падлеткаў зараз часцей сустракаюцца крадзяжы (есці ж хочацца), дзяўчынкі ў асноўным трапляюць у прыёмнік за прастытуцыю.

Прынамсі, гэты від «заробку» стаў вельмі «папулярным», асабліва на вялікіх аўтамагістралях. Чамусьці пайшла «мода» на «малалетак» (дзяўчатак 10—14 гадоў) — сутэнёры ствараюць з іх своеасаблівыя групкі і на ўсю моц прапаноўваюць свой «тавар». Звычайна гэта задавальненне каштуе дзесьці каля 40 тысяч расійскіх рублёў. Спачатку дзяўчынкам пасля жахаў бацькоўскай хаты такі лад жыцця падаецца прымальным. Пасля ж... а пасля сутэнёры ставяць перад сваімі «працаўніцамі» ўсё больш жорсткія ўмовы, пагражаюць нават фізічнай расправай, калі хто-небудзь адмовіцца выйсці на шашу. Таксама шмат непаўналетніх выяўляюць пры праверцы шматлікіх прытонаў, «малін». І там сустракаюцца не толькі дзяўчаты, дзяўчынкі з няўдачных сем'яў. Так, аднойчы ў прыёмніку «гасцявала» жыхарка Санкт-Пецярбурга. Маці — прафесар медыцынскага інстытута, дзед — таксама не апошні ў навуковым свеце чалавек. Расла іх дачушка паслухмянай, радавала родных філіграннай фартэпіяннай тэхнікай. Потым з'ездзіла ў лагер адпачынку і яе як быццам бы падмянілі — стала жорсткая, некіруемая. Пасля чарговай сваркі збегла з дому. Міліцыянеры знайшлі яе ў цягніку, дзе яна ехала са сталым мужчынам. Праваднiца заўважыла, што адно з купэ ўвесь час завешана прасцінай, вырашыла праверыць...

Таксама сярод цікавых тыпажоў прыёмніка — унук бабкі Фядоры (памятаеце, некалькі гадоў таму быў вялікі ажыятаж вакол гэтай лекаркі з-пад Бялынічаў). Той прыехаў з бацькам з Казахстана, а потым уцёк. Аднойчы прывезлі глуханямую дзяўчынку — выклікалі спецыялістаў з мясцовага інтэрната для такой катэгорыі, каб перакладалі, а то супрацоўнікі не маглі зразумець, што яна там «расказвае» рукамі (пісаць яшчэ не навучылася). Аказваецца, адстала ад бацькоў, сышла з цягніка на прыпынку, каб нешта купіць, і заблудзіла. Адным словам, з усіх куткоў былога Саюза сустракаюцца «жыхары». Зусім нядаўна аказалася ў прыёмніку дзяўчынка з Чувашыі — «абслугоўвала» вадзіцеляў далёкіх рэйсаў. У яе медыкі знайшлі рэдкую форму сіфілісу, здзіўляліся, што такога раней не бачылі, маглі прачытаць толькі ў кнігах.

Дарэчы, усе прыбываючыя праходзяць спачатку праверку ў скурдыспансеры, потым іх адмываюць у лазні (яна размешчана ў адным з будынкаў прыёмніка), пасля — зноў да ўрачоў. Карацей кажучы, аглядаюць «жыхароў» амаль як касманаўтаў.

Трымаюць да ўдакладнення сапраўднага месцажыхарства, стараюцца не ствараць вялікіх груп, хоць прыёмнік і разлічаны на 25 месцаў. Аднак калі набіраецца 10—15 чалавек — гэта ўжо праблема. Чаму? Ды таму, што штат вельмі невялікі — усяго дзевяць чалавек разам з начальнікам. Пяць дзяжурных па рэжыму (ахоўнікаў), якія адначасова з'яўляюцца і эвакуатарамі — адвозяць дзяцей да месца прызначэння. Таму і бывае, што з вялікай групай застаецца адзін чалавек. А гэта вельмі небяспечна, бо не з усімі прыбыўшымі ў супрацоўнікаў прыёмніка ўсталёўваюцца сяброўскія адносіны. Калі ў затрыманага шэраг крадзяжоў, то ён, вядома ж, пачынае падбухторваць падлеткаў да ўцёкаў.

Як бачым, «жыхары» прыёмніка-размеркавальніка Віцебскага УУС — своеасаблівы злепак сучаснасці. Злепак неадназначны, адбітак эпохі...

### Місія

Работа ў прыёмніку, як лічыць Уладзімір Мікалаевіч Траян, частка сапраўднай місіі ў дачыненні да дзяцей, што трапілі ў небяспечныя ўмовы існавання. Памятаеце, яшчэ Макаранка ў адным са сваіх твораў параўноўваў дзіцячыя душы з мяккім воскам. Можна з іх вылепіць і генія, і пачвару. У любых умовах, з усім грузам бруду і жорсткасці дзеці заўсёды застаюцца дзецьмі. Звычайнымі лапавухімі малымі грамадзянамі, падрастаючай зменай. Вельмі важна пры гэтым, каб будучыня знаходзілася пад пільным кантролем. Каб знікла з тых жа прыёмнікаў чорная цэгла па вуглах і адсутнасць мэблі. Разумею, што ў сённяшніх эканамічных умовах вельмі цяжка разлічваць падобным установам на «барскія шаты». Але ж нельга выконваць высакародную місію ў падобных умовах. У апісваемым мною выпадку ўлады быццам бы змянілі гнеў на літасць — прыёмнік днямі пераязджае ў Віцебск, дзе для яго знайшоўся някепскі будынак. Што ж, цяпер ужо сюды пацягнуцца дзіцячыя лёсы, іншыя людзі будуць трымаць у руках крохкі воск дзіцячых душ.

Адыходзячы, я яшчэ раз зазірнуў за краты: адтуль чуўся дружны стук лыжак — надышоў час абеду. Потым чацвёрку павядуць, напэўна, на другі паверх, у спальню, адпачываць. З вокнаў катэджаў зноў гучала нешта з рэпертуару Разенбаўма. Жыццё ішло сваім парадкам.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# Беларусь у прадчуванні пашпартнага ажыятажу

**Да апошняга часу ў Рэспубліцы Беларусь захоўваецца трохі ненатуральная сітуацыя з галоўным агульнаграмадзянскім дакументам. Існуючы разнабой стварае складанасці для ўсіх — нервовасць у рабоце работнікаў пашпартна-візавых аддзелаў, блытаніну ў розумах звычайных людзей. Як зараз? Што будзе надалей? Некаторыя тлумачэнні мы атрымалі ад намесніка начальніка ўпраўлення пашпартна-візавай службы МУС палкоўніка міліцыі Валерыя Казлоўскага.**

Зараз у насельніцтва нашай краіны на руках ажно 4 віды пашпартоў і дакументаў, што іх замяняюць: пераважная большасць мае савецкую чырвоную кніжыцу ўзору 1974 г., каля 170 тысяч чалавек з Мінска і Мінскай вобласці — пашпарт у сіняй вокладцы з гербам «Пагоня», каля 0,5 млн. чалавек — часовую даведку формы № 9, акрамя таго, ёсць уладальнікі замежных пашпартоў былога СССР. Менавіта наяўнасць разнастайных асноўных дакументаў і з'яўляецца галоўнай прычынай, па якой у грамадзян узнікае шмат пытанняў, якія яны задаюць службовым асобам, што выдаюць іх.

Дык вось, пашпарт з «Пагоняй» ужо не выдаецца. Да таго ж, ён так і не паспеў стаць сапраўдным для выезду за мяжу. Часовая даведка формы № 9 прызнаецца толькі ўнутры Беларусі, а ў іншых дзяржавах яна не прызнаецца за дакумент, які сведчыць асобу ўладальніка.

Што датычыцца замежных пашпартоў савецкага ўзору, то па іх дасягнута пэўная дамоўленасць паміж МУС і консульскім упраўленнем МЗС Рэспублікі Беларусь. Яны будуць выдавацца да 1 студзеня 1997 г. і лічыцца сапраўднымі для выезду за мяжу да 31 снежня 2001 г. Але і пасля навагодняга свята ў экстрэмальных выпадках у жыцці кагосьці з грамадзян (смерць, пахаванне ці наведванне магілы блізкага сваяка, які пражываў за мяжой) могуць як выключэнне выдаваць і замежныя пашпарты савецкага ўзору.

МУС гатова задаволіць грамадзян у іх законным праве на абмен ці атрыманне агульнаграмадзянскіх пашпартоў новага ўзору. Першая партыя (каля 2 тысяч дакументаў) для жыхароў сталіцы і Мінскай вобласці чакае свайго часу. Дзесьці 300 узораў новага нацыянальнага дакумента накіраваны ў пагранічныя службы, пасольствы і іншыя арганізацыі краін свету.

Тэрмін пачатку выдачы пашпартоў прызначаны на апошнія дні лістапада—пачатак снежня 1996 г.

Працэдура афармлення для абмену ці атрымання пашпарту пачнецца для гараджаніна ў ЖЭСах па месцы жыхарства, а для вяскоўца — у сельскіх Саветах. Што цікава, калі вы жадаеце, каб пашпарт быў сапраўдным для выезду за мяжу, трэба напісаць дадатковую заяву. Абавязковая дзяржаўная пошліна за пашпарт без права выезду за мяжу — 30 працэнтаў мінімальнага заробку (цяпер — 30 тысяч рублёў), з правам выезду — 5 мінімальных заробкаў (500 тысяч рублёў). Штамп для шматразовага наведвання чужых краін прастаўляецца на 5 гадоў.

Дададзім, што на падставе дзеючага заканадаўства прадугледжана паніжэнне стаўкі дзяржпошліны пры афармленні пашпарта на 50 працэнтаў для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, пенсіянераў, інвалідаў, а таксама для:

- грамадзян Беларусі — былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета, былых непаўналетніх вязняў іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных нацысцкай Германіяй і яе саюзнікамі ў перыяд ВАВ;
- інвалідаў з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі і калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд ВАВ ці іх наступствамі;
- сем'яў загінуўшых ваеннаслужачых (бацькоў і не ўступіўшых у новы шлюб жонак загінуўшых вайскоўцаў, былых партызан і падпольшчыкаў, незалежна ад віду атрымліваемай імі пенсіі, а таксама дзяцей, якія сталі інвалідамі да паўналецця і атрымліваюць пенсію з прычыны страты карміцеля за загінуўшага ваеннаслужачага).

Нацыянальны пашпарт выдаецца грамадзяніну, які дасягнуў 16-гадовага ўзросту, і сапраўдны да 25 гадоў, пасля чаго абменьваецца на новы. У наступны і апошні раз абмен адбудзецца ў 45 гадоў.

Навіна, што новы пашпарт пры выездзе за мяжу будзе выдавацца і дзецям да 16 гадоў. Аргументамі для гэтага паслужаць даведкі, якія пацвярджаюць выезд пэўнага хлопчыка ці дзяўчынкі. Штамп для замежных выездаў прастаўляецца таксама на 5-гадовы тэрмін, але бясплатна.

**Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**

# На прызбе ў Алены

***Уяўляю сабе, як сёй-той з вас, шаноўныя чытачы, здзівіўся, пабачыўшы назву гэтай рубрыкі. Маўляў, што гэта за несур'ёзная гульня ў сур'ёзнай «Звяздзе»? Хто такая гэтая Алена і што азначае яе «прызба»? Вазьму на сябе смеласць растлумачыць ўсё, а заадно і наладзіць прэзентацыю новай рубрыкі, якая, спадзяюся, знойдзе шмат прыхільнікаў менавіта сярод вас, дарагія чытачы нашай газеты.***

***Калі б давялося тлумачыць усё нашым пастаянным даўнім падпісчыкам, можна было б абысціся адным сказам. Варта было б толькі напісаць: наша рубрыка — крыху відазмененая пераемніца «Агульнага сшытка»... Але, па-першае, за той год, што няма вышэйпамянёнага «Агульнага сшытка», у нашай газеты, на вялікую радасць усіх яе супрацоўнікаў, прыбавілася нямала новых чытачоў. Па-другое, за даўнасцю часу (мінуў усё-ткі амаль год) нават пастаянныя нашы падпісчыкі, магчыма, ужо не зусім яскрава ўяўляюць сабе, што ж такое быў той «Сшытак». Па-трэцяе, хоць я і зазначыла, што рубрыка — пераемніца ўжо існаваўшай раней, але ў ёй шмат новага, чаго не было ў папярэдняй. Таму патлумачу ўсё падрабязна і па парадку.***

***«На прызбе ў Алены» — гэта старонка вашай творчасці, шаноўныя чытачы. На ёй вы маеце магчымасць раскрыць свой самабытны, можа, нікому яшчэ невядомы талент. Рубрыка будзе збірацца з матэрыялаў, дасланых менавіта вамі, найлепшыя нашы сябры. Ніводны ваш допіс не будзе абмінуты ўвагай.***

***Чаму — «на прызбе»? Дзе, як не на прызбах вясковых хат, нараджаліся ў даўніну самотныя і вясёлыя песні, трапныя жарты, расказваліся каларытныя, жывыя бываліцы і небыліцы? Прызба была своеасаблівым цэнтрам культуры, дзе бралі пачатак і вакол якога гуртаваліся народныя таленты. У нашай газетнай, сучаснай «прызбы» ёсць значная перавага: на ёй могуць сабрацца людзі з усіх куткоў нашай мілай Беларусі і паказаць усім астатнім, чаго яны вартыя. Як вам падаецца такая ідэя? Асабіста мне яна даспадобы. Чаму «ў Алены»? Якая б прызба ні была, без гаспадыні яна абысціся не можа. Усе вашы лісты і творы буду чытаць з вялікай увагай, таму і асмелілася (можа, некаму здасца гэта крыху амбіцыйным) дадаць да назвы рубрыкі сваё імя. Абяцаю спраўна выконваць усе абавязкі гаспадыні.***

***Наша новая рубрыка — не конкурс. Мы хочам, каб чытачы нашай газеты былі не выпадковымі, а паўнапраўнымі і пастаяннымі аўтарамі. Таму конкурс з яго пэўным акрэсленым лімітам часу (кожны конкурс павінен закончыцца) і меркантыльнымі ўмовамі (падвядзенне вынікаў, прызы) — не зусім тое, чым бачыцца нам новая рубрыка. Давайце рабіць нашу з вамі «Звязду» цікавейшай разам — вось адзіная ўмова рубрыкі і самы прыдатны да яе дэвіз.***

***Калі вы хочаце дапамагчы нам у стварэнні любімай газеты, калі ў вас рука цягнецца да пяра — рызыкніце, паспрабуйце свае сілы. Каб арганізавана праводзіць нашу працу, прапаную некалькі яе накірункаў.***

***І. ТАК ЎСЁ І БЫЛО...*** *Менавіта гэтымі словамі пачынаецца або заканчваецца праўдзівая гісторыя, расказаная на прызбе. Гісторыя гэта магла здарыцца з вамі, з вашымі знаёмымі ці сваякамі. Карацей, у гэтай намінацыі будуць змяшчацца дасланыя вамі бываліцы.*

***ІІ. ЯК ЖЫВЕЦЦА — ТАК ПЯЕЦЦА.*** *Наша газета не першы год славіцца дасціпнымі і надзённымі прыпеўкамі, складзенымі яе чытачамі. Мы хочам працягнуць гэту традыцыю, і я спадзяюся, што на гэту намінацыю хутка атрымаю шмат вашых новых твораў.*

***ІІІ. А Ў НАС СЯГОННЯ ФЭСТ.*** *Я чакаю вашых допісаў, у якіх вы раскажаце, як у вашай мясцовасці адзначаюцца традыцыйныя народныя святы. А можа, у вас ёсць свае адметныя мясцовыя святы? Ці сямейныя? Раскажыце пра іх нашым чытачам. Гэта вельмі цікава!*

***IV. КОЦЯ Ў ЧЫРВОНАЙ КАПОЦЕ*** *— своеасаблівы «дзіцячы куток» нашай старонкі (каля прызбы ж заўсёды гуляюць дзеці). Гульні, забаўкі, мініяцюры і вершы для малых, цікавыя гісторыі пра іх, іхнія першыя творы — для ўсяго знойдзецца месца ў гэтай намінацыі.*

***V. СКАЗАЎ — ЯК ЗВЯЗАЎ*** *— трапныя словы і выразы ў кантэксце, пачутыя ці можа нават падслуханыя вамі.*

***VI. ХТО НА ШТО ЗДАТНЫ.*** *У вас ёсць свой, арыгінальны ўласны рэцэпт нейкай адмысловай стравы? Ці, можа, шляхам спроб і памылак вы вынайшлі новы спосаб забівання цвікоў? Падзяліцеся сваімі ведамі і парадамі з астатнімі «на прызбе» ў гэтай намінацыі.*

***VII.*** *Як вызначыць паходжанне назвы вёскі, прозвішча, вясковай мянушкі. «Грамацей» скажа: «Зазірнуць у слоўнік». А можа вы ведаеце легенду ці проста цікавую жыццёвую гісторыю аб тым, чаму так, а не інакш завецца невялікае азярцо каля вашай вёскі ці чаму такая мянушка ў суседа, яго дзяцей або ўнукаў? Свае цікавыя адкрыцці, не падобныя на версіі ў слоўніку, дасылайце ў намінацыю* ***«КАЛЯ МАЙГО ЦЕРАМА».***

***VIII. «Я НЕ ПАЭТА...»*** *Пэўна, многія з вас думаюць менавіта так, пішучы вершаваныя радкі. Што ж, так сціпла думаў і сам Купала. Ці так гэта — вырашаць чытачам. Смела дасылайце свае вершаваныя спробы ў гэту намінацыю.*

***IX.*** *У намінацыі* ***«ПЕРАПЕВЫ»*** *мы будзем змяшчаць вашы дасціпныя прыстойныя пародыі на агульнавядомыя песні і вершы.*

***X.*** *Калі на вясковай прызбе з'яўляецца гараджанін, на яго з цікавасцю пазіраюць і чакаюць, што ён скажа. А ён, страсянуўшы з сябе першапачатковую няёмкасць, бывае, выдасць такое, адметна-гарадское... Для гараджан і пра гараджан нашай «прызбы» — намінацыя* ***«ГАРАДСКІ РАМАНС».***

***XI.*** *Не хочацца, каб наша старонка выходзіла ў свет «сляпой», без адзінага «акенца». Я прапаную зрабіць цэлыя* ***«АДКРЫТЫЯ ВЕСНІЦЫ».*** *Дасылайце свае цікавыя малюнкі і фотаздымкі. Вядома, тэхналогія вёрсткі газеты патрабуе, каб яны былі кантрастныя і якасныя.*

***XII. ШТО ЧУВАЦЬ?*** *Гаспадыня прызбы задае гэта пытанне ўсім сваім гасцям. Калі побач з вамі жыве цікавы чалавек, калі вы сутыкнуліся з невырашальнай праблемай, — карацей, калі вы лічыце, што нешта вартае журналісцкай ўвагі, — пішыце нам. Я і мае калегі з увагай паставімся да кожнага вашага паведамленя.*

*Вядома, гэтымі намінацыямі мы не абмяжоўваем вашу творчасць. Калі ў вас з'явяцца новыя прапановы — пішыце. Я вельмі спадзяюся, што хутка на маёй «прызбе» загучаць вашы галасы, шаноўныя! Чакаю вашых допісаў на адрас рэдакцыі. Пасля яго рабіце, калі ласка, паметку: «На прызбу». Свой зваротны адрас, прозвішча, імя і імя па бацьку пішыце дакладна і разборліва. Буду вам вельмі ўдзячная, калі свае творы вы будзеце пісаць на адным баку ліста — гэта значна аблегчыць працу з імі.*

*Шчыра запрашаю вас да сябе «на прызбу». Завітайце — не пашкадуеце!*

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## ТАК УСЁ І БЫЛО...

**Віктар Федарака, г. Скідаль**

### КАЖУХ

Сустрэў аднойчы я свайго знаёмага, дзядзьку Сцяпана

— Добры дзень, — кажу, — дзядзька Сцяпан!

— Дзень добры, калі не жартуеш. У горад?

— Так.

— Я вось таксама сёння сабраўся. Да сына зайду, ды на базар загляну.

— А на базар чаго, купіць што?

— Не, тут, разумееш, такая гісторыя... вось слухай. У тую суботу паехаў я на базар, стаю, тавар разглядаю, аж, бачу, нейкі мужык кажух прадае. Кажух новы, пашыты добра, двайным швом, акурат як на мяне. Во, глянь, ён і цяпер на мне. Падыходжу я да таго прадаўца. «Колькі каштуе? — пытаюся. — «Столькі і столькі», — адказвае. — «Купляю», — кажу. Дастаў я кашалёк, адлічыў грошы, а потым падумаў: а як не падыдзе? І кладу я грошы назад у кашалёк, а кашалёк у кішэню фуфайкі. «Дай перш я прымераю», — кажу. — «Калі ласка», — адказвае той прадавец. — «Патрымай маю фуфайку». Аддаў я яму сваю апранаху, узяўся мераць. А гэты злыдзень бачыў» напэўна, што ў мяне грошай багата, дык ён за маю фуфайку і бягом ад мяне. «Стой, — крычу, — пачакай!» Дзе ты бачыў, ён яшчэ хутчэй прыпусціў. Збег, гіцаль. А ў мяне ў фуфайцы правая кішэня была дзіравая, дык я прыспасобіўся кашалёк ці ключы якія праз гэту дзірку ды ў кішэню штаноў класці. А ён, зладзюга, гэтага, канешне, не ведаў. То паеду во пагляджу, трэба ж чалавеку заплаціць за кажух, а то неяк сорамна...

## З ДЗІЦЯЧАЙ НЕПАСРЭДНАСЦЮ...

**Святлана Стракач, г. Салігорск**

Пачатак 60-х гадоў. Мая маці яшчэ маладая. Брату Міколку пяць гадоў. Матуля працавала ў той час у калгасе. Кожную раніцу вясковыя жанчыны спяшаліся да Нюрчынай хаты, каб атрымаць нарад ад брыгадзіра. Брыгадзір любіў заліць за каўнер, і таму лягчэйшую працу даваў тым калгасніцам, якія частавалі яго гарэлкай.

Аднойчы маці ўбачыла ў акно, што ён накіраваўся ў наш двор. Яна адразу зразумела, у чым справа і што хоча яе «начальнік». Дома былі толькі маці і маленькі Міколка. Жанчыне надакучыла плаціць гарэлкай несумленнаму брыгадзіру. Яна сказала Міколку: «Сынок, дзядзька Валодзя хоча выпіць, а ў нас няма гарэлкі, таму скажы яму што мяне няма дома, а я схаваюся». Часу для роздуму, куды схавацца, не было (брыгадзір быў ужо ў двары), таму матуля хуценька палезла пад высокі жалезны ложак, які стаяў побач.

Брыгадзір увайшоў у хату, сеў на канапу і пачаў распытваць малога, дзе яго мама. А Міколка яму і адказвае: «Мама мне загадала сказаць, што яе няма дома». А затым звярнуўся да маці асабіста: «Мама, вылазь з-пад ложка, дзядзька Валодзя не хоча «ісці з хаты, ён ўсё роўна выпіць хоча»...

## ЯК ЖЫВЕЦЦА — ТАК ПЯЕЦЦА

**Янусь Малец, Мінск**

Каб хто ведаў, каб хто знаў,
Як я Маньку пакахаў,
Ды шкада свайго мне носа:
Маньчын муж займаўся боксам.

**Людміла Юшына, Гомель**

Запрашаў мяне кумок
Пасля дожджыка ў шынок.
Дзякуй, куме, за намер,
Я заўжды — як піянер!

**Галіна Сяргей, Гродна.**

Наша Маня важна ходзіць,
Бо вадою спірт разводзіць.
Паразводзіць месяц недзе —
І машынаю паедзе.

**Сцяпан Кухарчук, Івацэвічы**

Выйшла замуж — як па блату.
Дык яшчэ — пачуйце!
Мала добрае зарплаты —
Падавай пачуцці!

**Леанід Ганчароў, Віцебск**

Дзеда зноў трасе трасучка:
Ўвесь тытунь скурыла ўнучка.
А унук набраў разгон —
Выпіў дзедаў самагон.

## КАЛЯ МАЙГО ЦЕРАМА

**Зыгмунд ДЗЯКЕВІЧ, в. Пенцянішкі, Воранаўскі раён**

### ЯК ДЫМ.

Неяк адзін гаспадар паклікаў да сябе печніка. Той шчыраваў ля печкі ад цямна да цямна. І на трэці дзень печка была гатова. А калі пячнік скончыць класці печ, ён жа яе і запальвае першы раз сам. Гэты таксама запаліў, абышоў вакол, выйшаў на вуліцу, паглядзеў на комін. Потым паскроб за вухам і пытае гаспадара: «А дзе ж дым?» Вось тут да яго і прыліпла мянушка — Дым ды Дым. Як я памятаю сябе і як толькі пазнаўся з тым пячніком Іванам, яго так усе і клікалі — Дым. І хоць яго зараз ужо няма на гэтым свеце, але ў нашай мясцовасці можна заўсёды пачуць, як кажуць, пра чалавека, які не знойдзе, што яму рабіць і ходзіць сюды-туды: «Ну ты ходзіш, як той Дым!» Мне неаднойчы прыходзілася гэткае параўнанне вымаўляць і самому, бачачы, як швэндае ці спяшаецца куды-небудзь сусед, сябар і г. д. «Пайшоў, як Дым», «Што ходзіш сюды-туды, як Дым».

## Я НЕ ПАЭТА

**Марыя Цімінская, в. Дзераўцы, Асіповіцкі раён**

Што так сэрца трывожыць,
Не магу зразумець:
Ці то золата клёнаў,
Ці дубовая медзь,
Ці то вэлюм на травах,
Ці «курлы» жураво́ў,
Ці барвовасць асінак,
Ці то стынь паплавоў,
Ці то чырвань рабіны,
Ці слязіны дажджоў,
Ці гаркавасць каліны,
Ці радно тумано́ў,
Ці на плоце сініца,
Ці мароз на траве,
Ці вясна, што ўсё сніцца,
Што у сэрцы жыве?



Аляксандр Пікулік, в. Голацк, Пухавіцкі раён

Пяць гадоў

Адыгралі вяселле музыкі,
Маладыя — па кветкі ў лясок.
А на сцежцы той — камень вялікі,
Ні прайсці, ні адкінуць убок.

Падхапіў Ясь на рукі Яніну,
Асцярожна яе перанёс:
— Любы мой, ты сапраўдны мужчына!
— Яня, ты — маё шчасце, мой лёс!

Праз паўгода у той жа старонцы
Зноў сцяжынаю гэтай ідуць.
Азірнуўся і кінуў Ясь жонцы:
— Лепш пад ногі глядзі. Камень тут.

Пяць гадоў неўпрыкмет праляцелі.
Палінялі сватоў ручнікі.
А ў садку, там, дзе ружы квітнелі,
Па пуду, як падняць, буракі.
Трое дзетак ужо. Гаспадарка.
Праца, праца з відна да цямна.
І часцей усчынаецца сварка
А у хаце й палена няма.

І па дровы часінай сцюдзёнай
Па знаёмай шыбуюць мяжы.
— Куды прэшся, сляпая варона,
Ці не бачыш, што камень ляжыць?

## АДКРЫТЫЯ ВЕСНІЦЫ

**Малюнак Ірыны Вырва, Мінск.**




# «ГАЗЕТУ ВАШУ ЛЮБІМ ЧЫТАЦЬ І СЛУХАЦЬ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)**

Пасля дзяржаўнага перавароту 3 чэрвеня 1907 года (роспуск II Дзяржаўнай думы) па неабсяжных прасторах Расійскай імперыі пачалося жорсткае наступленне палітычнай рэакцыі. Прапагандаваць легальным шляхам рэвалюцыйныя і дэмакратычныя праграмы і погляды станавілася практычна немагчыма. У наступ пайшоў не толькі царызм, але і асабліва актыўна — рускія і польскія шавіністычныя групоўкі, для якіх усё беларускае, нацыянальнае — і найперш у сферы культуры і мовы — было проста непрымальным. Менавіта тады пытанне: «Быць ці не быць беларускай нацыі?» актуальна і востра стала на парадак дня ў нашым краі. «Царскі ўрад, — адзначае вядомы наш даследчык, доктар гістарычных навук прафесар Міхась Біч, — праваслаўная царква, рускія і польскія памешчыцка-клерыкальныя партыі і арганізацыі, афіцыйная школа і шавіністычны друк узмацнілі ў гэты час дзейнасць, накіраваную на асіміляцыю беларускага народа. У такіх умовах беларускі адраджэнцкі рух вымушаны быў у асноўным абараняцца ад націску рэакцыйных сіл, якія па сваёй магутнасці непараўнальна пераўзыходзілі яго».

«Нашай ніве» няпроста было арыентавацца, маскіраваць свае пазіцыі і погляды лідэраў Грамады, выбіраць, мяняць і ўдакладняць накірункі дзейнасці. Аднак разумныя і памяркоўныя дзеячы Адраджэння, якія працавалі ў штотыднёвіку, выдатна адчувалі змены і новыя павевы ў пульсе і рытме таго часу. Яны даволі паспяхова процістаялі правакацыям і інтрыгам, што перыядычна наладжваліся супраць іх рускім і польскім урадавым друкам, акцябрысцка-чарнасоценнымі штодзённымі газетамі і штотыднёвікамі. Іх жа органы — «Новое время», «Голос Москвы», «Окраины России», «Руское знамя», «Варшавский дневник», «Виленский вестник», «Минское слово», «Белорусский вестник», «Минская речь», «Кур'ер Літоўскі», «Дзённік Віленскі» і многія іншыя — з нумара ў нумар вялі раз'юшаны наступ на просты народ, раз за разам адмаўляючы існаванне асобнага беларускага этнасу, «сцвярджаючы» аб непатрэбнасці і немагчымасці адраджэння нашай культуры, мовы, адукацыі. Так, газета «Белорусская жизнь», што пачала выходзіць з пачатку 1911 года (а фінансавалася яна па прамому ўказанню расійскага прэм'ер-міністра П. Сталыпіна), нібы і заклікала «паставіць свае нацыянальныя задачы, самавызначыцца, аб'яднацца, зарганізавацца і згуртавацца як беларусам», аднак тут жа прапаноўвала «пакінуць гісторыі» родную беларускую мову. «Наша ніва» надзвычай тонка, умела і рашуча выкрыла намеры шавіністаў, сарвала з іх маску, у выніку чаго «Белорусская жизнь» пераўтварылася ў «Северо-западную жизнь» (нагадаю: наша Айчына для Расіі іншай, як «Северо-западным краем», і не была).

Крок за крокам, нумар за нумарам — «Наша ніва» спакваля станавілася пасапраўднаму народным, агульнабеларускім выданнем. Газета не кідалася ў пустапарожнія дыскусіі, сварку з шавіністамі і чарнасоценцамі. Яна апавядала аб жыцці — беларускіх гарадоў і вёсак, простага люду. Паводле падлікаў даследчыкаў, за першыя тры гады свайго існавання штотыднёвік апублікаваў звыш 900 допісаў амаль што з 500 беларускіх вёсак і гарадоў. Больш таго, сваіх распаўсюджвальнікаў і нават падпісчыкаў «Наша ніва» мела далёка за межамі Беларусі: у Маскве і Пецярбургу, Варшаве і Львове, Празе і Брно, Парыжы і Льежы, нават у Злучаных Штатах Амерыкі...

І, вядома ж, нельга недаацэньваць ролю і месца гэтага агульнанацыянальнага беларускага выдання ў справе станаўлення і развіцця нашай літаратуры. За тыя ж тры гады газета дала сваім чытачам магчымасць пазнаёміцца з творчасцю 97 паэтаў і празаікаў, якія змясцілі на яе старонках 337 вершаў і апавяданняў. Апавяданнем «Музыка» тут дэбютаваў Максім Багдановіч. Максім Гарэцкі і Цішка Гартны, Алесь Гарун і Змітрок Бядуля, Карусь Каганец і Цётка, Канстанцыя Буйла і Янка Журба — гэтыя і многія іншыя творцы прыйшлі ў беларускую нацыянальную літаратуру менавіта праз «Нашу ніву». І, натуральна, не магла абысціся газета без Янкі Купалы і Якуба Коласа. Менавіта ў ёй Купала ўпершыню змясціў паэмы «Курган» і «Бандароўна», а Колас — урыўкі з бессмяротнай «Новай зямлі». Падабаліся чытачам і з густам, на сакавітую родную мову перакладзеныя з рускай і польскай, творы Чэхава і Льва Талстога, Гогаля і Брусава, Караленкі і Горкага, Адама Міцкевіча і Ажэшкі...

У 1914 годзе па настойлівай просьбе заснавальнікаў Янка Купала згадзіўся стаць рэдактарам «Нашай нівы». Газета расквітнела з новай сілай, пагалоска аб ёй сярод простага народа набыла новы магутны размах. Жыццё беларусаў, іх праблемы занялі на старонках выдання практычна ўсё месца.

Але не ўсё было бязвоблачным і лёгкадаступным. Шэраг нумароў газеты ўлады канфіскавалі. Падпіска на «Нашу ніву» забаранялася настаўнікам і вучням школ Віленскай акругі, паштовым работнікам і вайскоўцам. Тым не менш, як пісалі ў рэдакцыю жыхары вёскі Мікалаеўшчына (радзімы Якуба Коласа), «газету вашу любім чытаць і слухаць, бо ў ёй пішуць аб тым, чаго хоча беларускі народ...»

...Тым часам да Вільні набліжаўся фронт першай сусветнай вайны. Выданне газеты станавілася практычна немагчымым. У канторскай кнізе 7 жніўня 1915 года Янка Купала зрабіў запіс аб выданні апошняга, 31-га нумара «Нашай нівы» за той год. Ён узяў на дарогу апошнія 5 рублёў з касы і пакінуў старажытную беларускую сталіцу, накіраваўшыся да маці ў Акопы.

**«Наша ніва» спаўна, годна выканала свой абавязак, сваю ролю ў гістарычным жыцці і развіцці нашага народа. Яе біяграфія — наша сапраўдная гордасць.**

**Анатоль МЯСНІКОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# ДЖЫНСАВЫ ПАРТРЭТ АЛЕГА КАРПОВІЧА

**Уяўляеце, усяго толькі адну лістападаўскую ноч праходзіла эксклюзіўная аўтарская выстава сатырычнай графікі беларускага мастака Алега КАРПОВІЧА.**



Мастаку проста пашчасціла, што ў Мінску ў «Макс-шоу» праходзіў трэці джынсавы фестываль. Бо Алег Карповіч знайшоў сваю тэму ў мастацтве — джынсы. Ёсць у мастака «Джынсавы яблык», «Сямейныя джынсы», «Касцюм Евы», «Джынсавы сад», «Джынсавы партрэт», «Гладыш», «Пірáміды». Карацей, суцэльнае «Джынсавае зацьменне»... А пачыналася яно так:

«Першая мая «джынсавая» карціна была намалявана гадоў 10—15 таму, але каб не гэтая выстава, іх бы яшчэ сто гадоў ніхто не ўбачыў», — кажа аўтар.

Пасля выставы адна з карцін нават паехала ў Расію — у якасці падарунка кіраўніку вядомага гурта «Чайф», канцэрт якога уваходзіў у культурную праграму фестывалю. А вёў культурную праграму Ягор Хрусталёў, праўда, у касцюме — белы верх, чорны ніз.

А мастак Карповіч затое верны джынсаваму стылю нават у адзенні. Звычайна ён апранаецца аднатонна, і колéр вопраткі змяняецца ў залежнасці ад пары года: летам — светлы, зімой чорны. Вось толькі на фірменную джынсоўку пакуль не хапае грошай, таму насіць прыходзіцца польска-турэцкі шырспажыў. А ўвогуле, джынсы для мастака — бясконцае аддзенне: па меры таго як яны зношваюцца, ператвараюцца спачатку ў шорты, затым для рамонту іншых рэчаў у ход ідуць замкі - «маланкі», гузікі, карацей, нічога не выкідваецца.

А вось маляваць на джынсавай тканіне Алег Карповіч не збіраецца: нашто псаваць добрую рэч?.. Тым больш, што гэта ўжо пройдзены этап: было і так, што ў мастацкім вучылішчы ў час абароны дыплома ўсе студэнты хадзілі ў распісаных джынсах. Бо выціралі пэндзлі аб штаны...

**Алена КЛІМЕНКА,**
**малюнкі**
**Алега КАРПОВІЧА.**





## Усходні гараскоп
### на наступны тыдзень

КАЗЯРОГ будзе заняты завяршэннем важнай работы. Дывідэнды будуць тым большымі, чым хутчэй вы паставіце фінальную кропку ў гэтым праекце. Зоркі раяць праявіць цвёрдасць і рабіць усё самому. Спадзявацца ў чымсьці на калег — значыць даць ім фору ў закуліснай барацьбе з вамі. А яна, паверце, ідзе незаўважна для вас.

ВАДАЛЕЯ чакае сутыкненне з начальствам, якое можа негатыўна паўплываць на кар'еру. Тут ужо лепш пайсці на ўступкі, чым апынуцца ля разбітага карыта. Булачнікі і пекары, уладальнікі бістро і рэстаранаў могуць пашыраць свае кухні, адкрываць філіялы ў іншых гарадах і нават краінах. Маладыя дзяўчаты захопяцца чалавекам, які не зможа адказаць на іх чыстае пачуццё.

РЫБЫ адчуюць, што перамены, якія адбыліся раней, прыносяць станоўчыя вынікі. У вас усё добра на рабоце і таму пазбягайце новых прызначэнняў, хай нават з павышэннем. Дома давядзецца пачаць невялікі рамонт, хоць нават і з такім клопату не аберацеся. Закаханыя змогуць выкраіць некалькі дзён, каб нацешыцца адзінотай.

АВЕНЫ павінны будуць пайсці на фінансавыя выдаткі, калі захочуць уратаваць бізнес. Прадстаўнікі хадавых прафесій будуць нарасхват. Парада выкарыстаць гэта і добра зарабіць, а потым разумна распарадзіцца грашамі. Дома справы пойдуць наперакос, але вы зробіце правільна, калі не станеце ўмешвацца ў іх ход.

ЦЯЛЬЦЫ будуць кіравацца фінансавымі інтарэсамі, якія і вызначаць вашу дзейнасць на будучую сямідзёнку. Калі правільна дзейнічаць, то дасягнуць пастаўленых мэтаў зможаце і ў тэрмін, і з невялікімі затратамі. Хатнія клопаты вас не абцяжараць. Яны дастануцца родным, і тыя з імі справяцца.

БЛІЗНЯТЫ сустрэнуцца з тым, хто жадае дапамагчы і вопытам і грашамі вашаму бізнесу. Самы час рызыкнуць і ўзяцца за што-небудзь спакуслівае. Асмельвайцеся на гэта толькі тады, калі вырашыце, што гэта вам па сілах. Інакш шмат страціце і расчаруецеся ў жыцці. Замежны вояж прынясе выдатны вынік. Так што жадаем шчаслівай дарогі.

РАК хутка дасягне прагрэсу ў рабоце і кар'еры. Магчыма, давядзецца папрацаваць і звышурочна — грошы на дарозе не валяюцца. Кантрактнікі задумаюцца аб свабоднай працы на саміх сябе. Мяняць месца жыхарства зоркі не раяць, а прапануюць застацца на ранейшым і быць больш уважлівым у час работы.

ІЛЬВЫ з большай адказнасцю павінны ставіцца да работы. Чакаецца і вір рамантычных прыгод. Стабільнасць у бізнесе адыграе не апошнюю ролю ў паспяховым прадаўжэнні вашага рамана. І, наадварот, ахаладжэнне ў каханні прымусіць пахіснуцца дабрабыт у бізнесе і фінансах.

ДЗЕВА, нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, дасягне вялікіх поспехаў у справах. Навакольныя ўбачаць у вас лідэра і ўсяляк падтрымаюць. Маловеры і капітулянты сыдуць з вашай дарогі, даўшы магчымасць упэўнена крочыць насустрач цудоўнай будучыні і дабрабыту.

ШАЛІ пасля цяжкіх баёў за працвітанне ўласнага бізнесу даб'юцца заслужанай вікторыі і атрымаюць вялікія грошы. Але не спяшайцеся з новымі інвестыцыямі — для іх цяпер не час. Прысвяціце сябе заняткам мастацтвам, якім планеты асабліва спрыяюць. Настройцеся на святочную ноту і адпраўляйцеся ў падарожжа.

СКАРПІЁН будзе вырашаць пытанні, звязаныя са сваім прасоўваннем па службе ці здачай адказных экзаменаў. Вас адолеюць мары аб змене работы, але не спяшайцеся з гэтым. Рознагалоссе з начальствам дасягне крытычнай кропкі. Раздражненне і заклапочанасць не спрыяюць рамантычным прыгодам, аб якіх прыйдзецца на час забыць.

СТРАЛЬЦА начальства не пагладзіць па галоўцы за нядбайнасць на рабоце. На службе будуць адны непрыемнасці, затое ў асабістым жыцці шмат поспехаў. Пашырыцца кола вашых сяброў дзякуючы ўдзелу ў некалькіх вечарынках. Маладым нішто не перашкодзіць зазнаць прыемнасць кахання. Рамантычныя прыгоды прымусяць забыць аб непарадках у справах.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**
*Дэлі.*

## ПАЛКУ НАРОДНЫХ ПРЫБЫЛО

**Прысваенне звання народнага артыста Беларусі Эдуард Ханок адзначыў, можна сказаць, у сямейным коле. Жонка, дзеці і ўнукі кампазітара сапраўды выглядалі як гаспадары балю. А малодшая, Святлана, з нагоды свята нарэшце змяніла чорную канцэртную сукенку на новую, пяшчотна-зялёную.**

Але на юбілейны канцэрт да 25-годдзя творчай дзейнасці сабраліся не толькі самыя блізкія, але і творчая «радня»: беларускія артысты, якія зрабілі песні Ханка вядомымі, калегі-кампазітары, паэты, якія напісалі добрыя вершы для песень, і знаёмыя, якія гэтыя песні ўпадабалі (бо трапіць на канцэрт можна было па запрашальных білетах). Сяброўская сям'я атрымалася досыць вялікая і санавітая, калі браць пад увагу колькасць афіцыяльных асоб. І, мяркуючы па настроі юбіляра, ён яшчэ здольны яе пашыраць.

Якім чынам? Ды, вядома ж, дзякуючы свайму таленту і імкненню быць карысным. Ну, напрыклад, не так даўно сябрам Ханка стаў прэзідэнт фірмы «Батыўля» В. В. Неўмяржыцкі, дзе кампазітар зараз працуе. Працуе, відаць, плённа, бо як падарунак босу ўжо з'явілася песня пра рэчку, якая называецца Батыўля. Увогуле, Эдуард Сямёнавіч схільны сябраваць з прэзідэнтамі і рабіць ім сюрпрызы ў выглядзе песень. Вось толькі адзін з іх не прысутнічаў у зале і не чуў у выкананні аўтара яшчэ адну новую песню — «Таварыш прэзідэнт», якая ў сённяшніх умовах магла б прэтэндаваць на статус новага гімна.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*У ГАСЦЯХ — ЗОРКА*

**Філіп КІРКОРАЎ:**

# «Я ЎМЕЮ НА СЦЭНЕ ПАКАЗАЦЬ СВАЕ МАГЧЫМАСЦІ»

***Ён ходзіць з высока ўзнятай галавой. І на расійскай эстрадзе ўяўляе сабой зорку недасягальнай вышыні. Вядома, наўрад ці хто так хутка зможа перагнаць яго ў росце. Наўрад ці хто здолее дагнаць яго па колькасці плётак і скандалаў вакол сваёй персоны. А ён рушыць ўсё далей. Пахудзеў — а здаецца, яшчэ больш выцягнуўся, ажаніўся — дык быццам бы ўраўнаваў сябе з самымі заслужанымі. І вось ужо ў Маскве рыхтуюцца яго сольныя канцэрты пасля самой Ціны Цёрнер. Ці не надта самаўпэўнена? Але ён лічыць, што сваіх «куміраў» народ паважае болей. Народная любоў — штука адказная. Яна, на думку Філіпа, узнімае вышэй сапраўдных артыстаў. Але (вось дзіва!) разам з рэйтынгам падымаецца і сума іх ганарараў.***

**— На рынку куміраў зараз вельмі вялікі выбар. Раней куміраў было меней, але кожная ўдалая песня лічылася з'яваю. Вы яшчэ не засумавалі ў вале безаблічнай музычнай прадукцыі?**

— Мне здаецца, што зараз ідзе зварот да мелодыкі і музычнай эстэтыкі, якая была раней. Магчыма, не выпадкова, а па загаду сэрца мне захацелася выканаць песню «Эти глаза напротив». Я думаю, зараз яна набыла другое жыццё, яе слухаюць і ўспрымаюць па-сучаснаму, тым больш, што пачуццё кахання застаецца такім жа таямнічым, нягледзячы ні на якую эпоху. Не ведаю, можа ў мяне нейкі такі перыяд, што хочацца слухаць песні былых часоў. Вось мне трыццаць, а я з задавальненнем слухаю песні з фільма «Чырвоная шапачка» ці «Мэры Попінз».

**— Як вы лічыце, ці з'явіцца ў будучых пакаленняў жаданне калі-небудзь звярнуцца да музычнай прадукцыі, якая зараз гучыць?**

— У мяне дакладнае адчуванне, што да песні «Зайка мая» абавязкова звернуцца, нягледзячы на яе мімалётнасць і легкадумнасць. А калі разабрацца, то гэта глыбока філасофская песня. У ёй заключана самае патаемнае сусветнае пачуццё — каханне. Таму што, самі таго не заўважаючы, мы называем сваіх каханых «зайкамі», «кіскамі», «рыбкамі».

**— Чаму вы так дрэнна думаеце пра густы будучых пакаленняў меламанаў?**

— Чаму гэта дрэнна?.. Усё геніяльнае проста. Ці не зашмат штучнасці навокал? Няхай бы болей гучала такіх шчырых слоў... А калі аб'ектыўна казаць, то, вядома, раней было болей песень, якія ўвайшлі ў фонд «залатых скарбаў».

**— Ці многа шчырых слоў перападае вашай каханай?**

— Яна іх чуе штодня. З іх пачынаецца звычайна ранак.

**— Але ў прэсе з настойлівай перыядычнасцю з'яўляецца інфармацыя пра тое, што быццам бы славутая пара знаходзіцца напярэдадні разводу.**

— Колькі мы жывём разам з Алай, столькі і ходзяць розныя чуткі пра нас. Быццам бы мы не жывём разам, што і спім у розных ложках, што сустракаемся толькі на людзях, што такім чынам «падаграваем» цікавасць да сябе. Што тут казаць? Столькі ўсяго гавораць, што я не маю жадання кожны раз апраўдвацца. Ды і ці варта гэта рабіць? Бо народ сам ведае, калі з ім гуляюць, а калі кажуць праўду.

**— Такое ўражанне, што вы вельмі пільна сочыце за ўсімі плёткамі. Ці не здаецца вам, што вы самі іх правакуеце, пускаючы журналістаў у сваю сямейную спальню?**

— Мы часам і пускаем іх для таго, каб паказаць, што ёсць сям'я. Часам. Мы жывём — і жывём. І ўсё тут.

**— Існуе такое меркаванне, што калі чалавек становіцца вядомым, для яго перастаюць існаваць сябры, а застаюцца толькі «патрэбныя людзі».**

— Я не згодны. Сапраўды, сяброў хочацца мець, але іх няма. Чамусьці так атрымліваецца, што сябры побач, калі з табой усё добра. У маім жыцці было некалькі момантаў, калі было цяжка. Але дзякуючы гэтым падзеям я здолеў адсеяць «быццам бы сяброў». Зараз вакол мяне вельмі мала людзей, да якіх я магу ставіцца як да сяброў. А «патрэбныя людзі» — зусім іншае. Ды калі разабрацца, то хутчэй яны маюць патрэбу ўва мне, чым я ў іх. У мяне ўсё ёсць.

**— Вы любіце атрымліваць падарункі, ці пераважна самі іх робіце?**

— У нашай сям'і ўсе робяць адзін аднаму падарункі. Гэта яшчэ адна магчымасць зрабіць свята.

**— А калі ў жыцці здараюцца правалы, як вы іх перажываеце?**

— Спачатку вельмі цяжка перажываў, потым па-філасофску. Што кожны правал у будучыні мне дапаможа перамагчы на нейкім этапе творчасці.

**— Да якіх высноў вас прывёў «ірландскі» правал?**

— Я не лічу выступленне на «Еўрабачанні» правалам. Я лічу гэты конкурс дастойнай школай, дзякуючы якой я ўзняўся на прыступак 20 вышэй у сваёй творчасці. Незалежна ад таго, якое месца заняў — 17-е ці 19-е. Ну і што, што не першае? Што, я дрэнна спяваў? Я дрэнна паказаўся?

**— Тады ў вас была магчымасць адчуць, на якім узроўні робяць песні ў Еўропе. Не здаецца, што месца, якое ў Ірландыі прысудзілі вам, — гэта на самай справе месца ўсёй расійскай эстрады?**

— Не трэба абагульняць. Я выконваў песню, якую была магчымасць падрыхтаваць за тыдзень да конкурсу. А выкананне было геніяльнейшым. Прабачце за нясціпласць. Я ўмею на сцэне паказаць свае магчымасці. Я чалавек з голасам на гэтай эстрадзе. Пакуль яшчэ. У адрозненне ад многіх іншых... Усё, скончылі, надакучыла. Хочацца курыць...

**Размаўляла**
**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*Віншуем з днём нараджэння Наталлю Трацьякову з в. Кукавічы Калінкавіцкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, даўгалецця.*

**Бацькі, Надзея, Валера, Янка.**

## *Віншаванні*

*Ад усёй душы віншуем дарагую дачушку **Наталлю Ігараўну Алейнікаву** з Мінска з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы.*

**Сям'я Крыт са Стаўбцоўскага раёна.**

*Дарагія жонка **Алена Вікенцьеўна Хабян**, дачушкі **Алёна** і **Наташа**. Віншую вас з днём нараджэння. Жадаю шчасця, здароўя, поспехаў ва ўсім, добрага настрою.*

**З павагай і любоўю муж і тата.** *в. Вангі Лідскага раёна.*

*Віншуем любую жонку і маці **Галіну Сяргей** з Гродна з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця.*

**Муж і дзеці.**

*Віншуем мужа і бацьку **Фёдара Карпавіча Кухарава** з 70-годдзем. Жадаем здароўя і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**З любоўю жонка і дзеці,** *в. Новы Быхаў.*

*Віншуем дарагую мамачку **Ванду Іванаўну Тумілові** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту і шчасця.*

**Дачка, зяць і ўнучка,** *в. Баравое.*

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ТВАЕ РУКІ

**Раманс «Рукі» Ілы Жака на вершы Васіля Лебедзева-Кумача часта гучаў па радыё. З канца 30-х гадоў гэты вакальны твор быў у рэпертуары Клаўдзіі Шульжэнка, і яна таленавіта перадавала яго дух. У час Вялікай Айчыннай вайны спявачка часта выступала перад салдатамі на фронце, параненымі ў шпіталях — і яны заўсёды прасілі выканаць раманс «Рукі». Ён вяртаў стомленых байцоў да лірычных сустрэч. Памятаеце:**

***Нет, не глаза твои вспоминаю в час разлуки,***
***Не голос твой услышу в тишине.***
***Я вспомню ласковые, трепетные руки —***
***И о тебе они напомнят мне.***

***Руки, вы, словно две большие птицы,***
***Как вы летали, как оживляли всё вокруг...***

**Як прадаўжэнне гэтага даверлівага выказвання гучаць на беларускай мове словы пра рукі і параўнанне іх з лебедзямі, якія свята захоўваюць сямейную вернасць.**

**У каханні словы, позіркі, рухі — усё напоўнена канкрэтным і адначасова велічным сэнсам. У руху — гармонія душы і цела і іх яднанне, выяўленне прыцягнення, ахвяравальнай страсці. З вялікім паэтычным майстэрствам гэта ўвасобіў Янка Сіпакоў у вершы, які так і названы — «Песня».**

**Драматычная развязка, якая нечакана наступіла ў рускім рамансе («Руки, как вы могли легко проститься»), здаецца, не пагражае разгортванню адносінаў у беларускай песні. Тут уладарыць пачуццё — светлае, імклівае, вернае.**

**Музыка гарманічна супадае з тэкстам, удала перадае разнастайныя пачуццёвыя нюансы, стварае непаўторныя малюнкі самазабыцця закаханых.**

**Песня «Твае рукі» — адзін з лепшых беларускіх лірычных вакальных твораў. Напісана ў 1980 годзе. Полацкі кампазітар Мікалай Пятрэнка, вялікі прыхільнік беларускай паэзіі, быў вельмі крануты лірызмам, незвычайнай узнёсласцю і вобразнасцю верша Янкі Сіпакова. І песня нарадзілася на адным дыханні. Спачатку яе выконваў калектыў мастацкай самадзейнасці Полацкага педвучылішча. У 1981 годзе, падчас выступлення «Песняроў» у Полацку, кампазітар паказаў песню Уладзіміру Мулявіну. Неўзабаве песня «Твае рукі» загучала на канцэртах, па радыё ў выкананні славутага ансамбля.**

**Міхась ШАВЫРКІН.**

ВЕРШ ЯНКІ СІПАКОВА

МУЗЫКА МІКАЛАЯ ПЯТРЭНКІ

Твае рукі, твае рукі нада мною,
Нібы лебедзі над белаю зімою.
Як ласкава яны кружаць
І са мной па леце тужаць,
Нібы лебедзі
над белаю зімой.

Цяжка, рукі, расставацца
з вамі дужа
І без вас мне заставацца
паміж сцюжаў...
Не ляціце, рукі, ў вырай,
Нада мною кружыце шчыра,
Нібы лебедзі наб белаю зімою.

Я люблю, як твае рукі нада мною,
Нібы лебедзі над белаю зімою.
Як яны садзяцца міла,
Склаўшы крылы, склаўшы крылы,
Нібы лебедзі над белаю зімой.

Калі лашчаць валасы
мне твае рукі,
Ціха слухаю, бы песню, я іх рухі.
А яны пяюць шчымліва
І крыляюць палахліва,
Нібы лебедзі над белаю зімою.



## Анекдоты

Едуць на базар у аўтобусе звяры. Цесната. Тут аўтобус нечакана падкінула на яме, і мядзведзь штурхнуў зайца.

— Ціха ты, Міша, — завойкаў касы. — У мяне ж яйкі.

— А ў мяне што, па-твойму, бульба? — не разгубіўся мядзведзь.

❑

— А мы ў гэтым годзе па адной пуцёўцы ўсёй сям'ёй адпачывалі, — хваліцца адзін сябар другому.

— Не можа такога быць.

— Яшчэ як можа! Купілі адну пуцёўку і адправілі па ёй у санаторый цешчу.

❑

Сустракаюцца два грузіны. Адзін пытае ў другога:

— Чаму, Вано, такі засмучаны?

— Вах, намаляваў карціну, а яе на выставе забракавалі.

— А што было на карціне?

— Жанчына пад дрэвам корміць грудзьмі дзіця.

— І што ім не спадабалася?

— Прычапіліся, чаму дзіця з вусамі.

❑

Прыходзіць Вовачка дадому са школы і кажа бацьку:

— Цябе заўтра дырэктар выклікае. Будзе скардзіцца, што ў час лабараторнай работы я кабінет фізікі ўзарваў.

Праз некалькі дзён зноў:

— Тата, схадзі ў школу, бо я незнарок узарваў кабінет хіміі.

Яшчэ праз тыдзень:

— Бацька, цябе ў які раз выклікаюць у школу...

— Як хочаш, а я не пайду, — адказвае той. — Абрыдла выслухоўваць пра цябе.

— Ну і правільна, няма чаго па руінах цягацца.

❑

Едзе па вёсцы на кані мужык. З-за агароджы яму крычыць другі:

— Кум, што ты ніколі ў госці не заходзіш? Зайшоў бы, пасядзелі б, самагоначкі выпілі...

— Тпр-ру. Самагоначкі, кажаш...

— Так, самагоначкі выпілі б, дровы пасеклі б...

— Н-но! Заслухалася, скаціна.

❑

Жанчына пад'язджае на таксі дадому, збіраецца расплачвацца, адкрывае сумачку і... разводзіць рукамі:

— Бацюхна, я ж была ўпэўнена, што грошы ёсць. Што ж рабіць?

Таксіст разварочвае машыну і вязе жанчыну ў лес. Дастае з багажніка прасціну і рассцілае на зямлі.

— Што вы збіраецеся рабіць, у мяне ж трое дзяцей? — пытае перапалоханая кабета.

— А ў мяне дома трыццаць трусоў. Рві траву і складвай.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 3. Сцяг на караблі, які падымаецца ў час якарнай стаянкі. 7. Іспанскі нацыянальны танец. 8. Рака, якая працякае праз Турцыю, Сірыю, Іран. 10. Вялікі жалезнарудны басейн у Канадзе. 11. Сталіца дзяржавы ў Скандынавіі. 12. Орган дзяржаўнай улады ў Польшчы. 13. Афіцэрскае званне. 16. Салёнае возера ў Казахстане. 18. Курорт у Паўднёвай Італіі. 20. Стваральнік вобразаў з дапамогай фарбаў, алоўка і г. д. 22. Намеснік кіраўніка вышэйшай навучальнай установы. 23. Атамны ледакол арктычнага флоту. 25. Саўгас-тэхнікум на Магілёўшчыне. 26. Адна з форм дзейнасці дзяржаўных праваахоўных органаў па захаванню законнасці. 28. Далёкаўсходняя прамысловая рыба. 29. Тэкст, напісаны з дапамогай тэхнічных сродкаў. 30. Касмічная ракета-носьбіт. 31. Балет А. Хачатурана. 34. Высокі дзіцячы голас. 36. Французская авіяцыйная фірма. 38. Малодшы матрос. 40. Задыякальнае сузор'е. 41. Працэс, які працякае пры пастаяннай тэмпературы. 42. Месца здабычы карысных выкапняў. 43. Памер, габарыты аднаго з элементаў будоўлі. 44. Газ, хімічны элемент.



**Па вертыкалях:** 1. Курорт у Крыме. 2. Участак сушы, адгароджаны дамбай ад марской вады. 3. Праліў паміж Еўропай і Афрыкай. 4. Опера М. Рымскага-Корсакава. 5. Парода авечак з белай поўсцю. 6. Спартыўны спосаб плавання. 7. Праліў паміж Еўропай і Азіяй. 9. Моцны акіянскі вецер. 13. Адзін са сродкаў вырашэння спрэчак паміж дзяржавамі. 14. Інжынерна-тэхнічнае збудаванне, якое забяспечвае доступ да падземных водаў, пластоў нафты і г. д. 15. Энергетычная каштоўнасць прадуктаў харчавання. 17. Слова, утворанае шляхам перастаноўкі літар другога слова. 19. Работа па раскрыццю пластоў зямлі з мэтай вышуку сведчанняў старажытнасці. 20. Ядомы грыб. 21. Сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства. 22. Нізкарослая парода коней. 24. Месцы для гледачоў, ложы аднаго паверха ў тэатры. 27. Права, дазвол на праход, наведванне, азнаямленне. 29. Выбарны адміністрацыйна-судовы орган у гарадах еўрапейскіх краін. 32. Першапраходца, першаадкрывальнік. 33. Аповесць А. Адамовіча. 34. Карціна з размешчаным перад ёй аб'ёмным пярэднім планам. 35. Горад на месцы здабычы каштоўнага метала ў Мурманскай вобласці. 37. Адна са скульптур мемарыяльнага комплексу Брэсцкай крэпасці. 39. Працяглая горная сістэма ў Паўднёвай Амерыцы. 40. Народны паэт-спявак у народаў Каўказа.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**

*г. Бабруйск.*

### ДЗЕСЯЦЬ АДРОЗНЕННЯЎ

На гэтых двух вельмі падобных малюнках адшукайце дзесяць адрозненняў.



## Зноў зацвіў бэз

Не верыцца ў гэта, бо на двары не вясна, а апошні месяц восені. І тым не менш, на адным з двароў па вуліцы Чырвонаармейскай у Гомелі куст бэзу выкінуў у шэрае наваколле букеты пышных кветак. І чамусьці без лісця. Ад гэтага нібы пасвятлела, павесялела і на двары, і на вуліцы. Ходзяць тут людзі, усміхаюцца: а што, можа і сёлета зімы не будзе? Хай сабе, мы не пакрыўдзімся.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

36,6°

## Чай, які прыдае фігуры стройнасць

**Гэты напой з'яўляецца аздараўленчым сродкам, які нармалізуе вагу, паляпшае самаадчуванне, вяртае стройнасць і маладосць, рэгулюе абмен рэчываў.**

Састаў (у грамах): крушына (кара) — 20; плады шыпшыны — 10; марская капуста — 15; ліст ажыны — 15; ліст маліны — 15.

Спосаб прыгатавання: адну чайную лыжку сумесі заварыць у шклянцы кіпячай вады, даць настояцца некалькі хвілін. Піць з лімонным сокам, мёдам ці цукрам.

Гэты дыетычны напой карысны для тых, хто схільны да атлусцення, хто хоча стаць стройным. Паляпшае работу органаў, асабліва залоз, не дае скоплівацца тлушчу, паляпшае адвод вадкасці і паскарае страваванне. Рэгулюе агульны абмен рэчываў і тым самым — вагу цела.

*Выказваю шчырую падзяку начальніку паштовага аддзялення Глядовічы Мастоўскага раёна* ***Карпейчык Вользе Яўгенаўне*** *за добрыя, чулыя адносіны да кліентаў.*

**Паладзенка А. С.**



## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Віцебску — 2—4, Брэсце, Магілёве — 3—5, Гомелі — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 24-га ўначы ў паўднёва-ўсходняй палавіне рэспублікі ападкі, удзень — без ападкаў; 25-га — на большай частцы тэрыторыі ападкі, слабы галалёд. Тэмпература ўначы — мінус 3 —плюс 2, удзень — мінус 1 — плюс 4.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7397.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12